

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА — ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ — № 24 (13556)

8— 14 чэрвеня 1992 года — Цана 3 рублі.

Унумары:



Вось вам ваша рэшта!

Мал. В.Дубовіка.

# ПАН АГРЭМАН. БЕЗ ЯГО НЕЛЬГА,

*або Пасол яшчэ паспее выкапаць бульбу*

На мінулым тыдні Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі на чарговым пасяджэнні прызначыў першых паслоў незалежнай Беларускай дзяржавы ў замежжа. Імі сталі Пётр Вікенцьевіч Садоўскі – старшыня парламенцкай Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях, і Уладзімір Лявонавіч Сянько – намеснік міністра замежных спраў. Першы прыгаданы спадар назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным паслому Германію, другі – у Польшчу. Але... варта заўважыць, што для ўступлення рашэння Прэзідыума ВС ў сілу неабходна адпаведная рэакцыя ўрадаў тых краін, куды прызначаны беларускія паслы. Гэты крок, згодна міжнародным канонам, атрымаў назоў агрэман, што ў перакладзе з французскай мовы вытлумачваецца як згода, пацвярджэнне. Такім чынам, урад краіны, куды прызначаны пасол, пацвярджае, што апошні прымаецца. Міне месяц, а то і два, пакуль рашэнне Прэзідыума падмацуецца, спадзяёмся, згодай адпаведных бакоў – нямецкага і польскага. У прыватнасці, пад час адтэрміноўкі правяраецца, ці займаліся прызначаныя асобы шпіёнскай дзейнасцю.

Мы паспрабавалі пагаманіць з Пятром Вікенцьевічам Садоўскім пра ягонае дыпламатычнае хрышчэнне, але... нам далікатна адмовілі. На пытанне "Ці хутка збіраецеся ехаць у Нямеччыну?" спадар Садоўскі ветліва і цярпліва, ну зусім як на вышэйшым узроўні, адказаў наступнае: у Нямеччыну, калі, зразумела, зацвердзіць ягоную кандыдатуру шаноўны нямецкі бок, паедзе няхутка. Пэўне, яшчэ паспее выкапаць бульбу. І ўвогуле, дадаў Пётр Вікенцьевіч, даваць інтэрв'ю ў якасці пасла заўчасна і лічыцца за маветон, што, ізноў жа ў перакладзе з французскай, азначае – кепскі, благі тон. На чым і пагадзіліся. А то мы тут такія няўклюды, няўрокам яшчэ нешта ляпнем і сапсуём увесь агрэман.

Алена Агібалава.

## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

# Я пайшоў бы ў фермеры ...

Фермерскія гаспадаркі — з'ява ў нашым жыцці новая. Таму і цікавяцца людзі: як ідуць у іх справы, ці сапраўды фермеры гаспадараць лепш, чым прыхільнікі калектыўных форм уласнасці.

У мінулым годзе ў нашай рэспубліцы налічвалася 775 фермерскіх гаспадарак. Іх падвор'і далі 426 тон мяса, 451 тону малака, 4298 тон бульбы, 385 тон агародніны і 3375 тон збожжа. Амаль за чатыры месяцы гэтага года колькасць фермераў павялічылася ў два разы і склала 1471 чалавек. Найбольшая колькасць жадаючых весці гаспадарку самастойна ў Гомельскай вобласці — 415, другое месца займае Мінская — 321, бронзу атрымала Магілёўская, дзе іх колькасць дасягнула 253 чалавек. У карыстанні фермераў знаходзіцца 31755 гектараў зямлі, амаль тысяча трактароў розных марак, 3569 галоў бычкоў і цялят, 1752 каровы, 3076 свінак. Між тым, матэрыяльнае забеспячэнне фермерскіх гаспадарак яшчэ вельмі слабае. Ёсць нават фермеры, якія не маюць наогул ніякай тэхнікі, а ўсю работу выконваюць так, як іх дзяды — на конях. Таму і не дасягнулі яны такіх паказчыкаў вытворчасці, якіх дабіліся калгасы і саўгасы. Такім чынам, гаварыць, што фермеры намнога лепш працуюць за калгаснікаў, яшчэ вельмі рана.

Практыка паказвае, што большасць фермерскіх гаспадарак ствараецца менавіта ў тых абласцях, дзе калектыўны сектар сельскай гаспадаркі слабейшы, дзе не пастаўлена належным чынам аплата працы калгаснікаў, не наладжана арганізацыя вытворчага працэсу. У тых жа гаспадарках, дзе добра наладжана гэта работа, жадаючых узяць зямлю і выйсці з калгасаў і саўгасаў значна менш. Асабліва зменшылася іх колькасць зараз, калі калектыўныя гаспадаркі карэнным чынам мяняюць старыя метады працы, уводзяць долевы ўдзел кожнага працаўніка, размяркоўваюць прыбытак паміж калгаснікамі. Ці не вернуцца фермеры назад у калгасы, калі ўбачаць вынікі перамен?

Што датычыць моладзі, то яна пакуль што займае пазіцыю назіральніка. Маўляў, паглядзім, што з гэтага атрымаецца, тады і прымем канчатковае рашэнне. І сапраўды, нягледзячы на падтрымку дзяржавай, клопатаў у фермераў намнога больш, чым было раней, калі яны працавалі ў калгасах ці ў гарадах. І працаваць стала не лягчэй, а наадварот, намнога цяжэй. Калі амерыканскі фермер аддае сваёй гаспадарцы пяць гадзін у дзень, а яго жонка з'яўляецца там усяго тры-чатыры разы на тыдзень, то нашым фермерскім сем'ям прыходзіцца працаваць ад світанку да змяркання. Інакш, пры ўбогай аснашчанасці нашых фермерскіх гаспадарак на высокія ўраджаі разлічваць не прыходзіцца.

Па рашэнню ўрада нашай рэспублікі на абсталяванне фермерскіх гаспадарак у гэтым годзе выдзелена 200 мільёнаў рублёў безвыплатнай дапамогі. Дзякуючы гэтым сродкам будуць выкананы работы па будаўніцтву дарог, электрыфікацыі, газіфікацыі, тэлефанізацыі, водазабеспячэнню фермерскіх гаспадарак. Глядзіш — і ў нашых фермераў будзе тэлефон.

(Ул. інф.).

## СТОП-ФАКТ

# ХТО ЗАСТРАХУЕ ДЗЯРЖСТРАХ...

8 чэрвеня на праспекце Ф.Скарыны многія, напэўна, бачылі калону жанчын (каля 200 чалавек) з плакатамі. То быў працяг акцыі пратэсту супраць карупцыі ў органах дзяржаўнай улады і кіравання, якая пачалася яшчэ 27 мая. Гэтыя жанчыны — страхавыя агенты, якія замест звычных сумак начапілі на сябе плакаты. Збоку калону суправаджала некалькі мужчын, якія неслі лістоўкі і з дапамогай гучнагаварыцеля спрабавалі прыцягнуць увагу прахожых. З подпісаў на плакатах і з тэксту лістовак вынікае, што прафсаюз страхавых работнікаў (Канфедэрацыя працы Беларусі) дамагаецца дэпутацкага і судовага разбору ў адносінах да генеральнага дырэктара Белдзяржстраха П.Стасюка і іншых службовых асоб, якія, як лічаць удзельнікі акцыі, дапамагаюць адзін аднаму ў камерцыі за наш з вамі кошт, выкарыстоўваючы пры гэтым сродкі з мільённага страхавога фонду. Удзельніцы акцыі выказаліся таксама супраць чакаемага масавага скарачэння і за павышэнне заробку. Арганізаваны збор сродкаў у дапамогу гэтай акцыі, якія мяркуецца выкарыстаць на друкаванне новых лістовак і на далейшы працяг акцыі. Працу ж пры гэтым страхагенты вырашылі не спыняць.

Сяргей Вішнеўскі.

# СВЯТА ДАБРЫНІ

Два дні ў Полацку праходзіла свята, прысвечанае Еўфрасінні Полацкай. Пачалося яно чацвёртага чэрвеня вячэрнім богаслужэннем, на якім прысутнічалі архіепіскапы Максім і Дзімітрый, мітрапаліт Філарэт. Адбылася служба ў Крыжаўздвіжанскім саборы, таму што Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр не змог змясціць усіх вернікаў, жадаючых прысутнічаць на ёй.

На наступны дзень свята прадоўжылася. У сем гадзін у Крыжаўздвіжанскім саборы адбылася ранішняя літургія, затым была праведзена яшчэ адна літургія, у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры, пасля якой прайшоў малебен і хрэсны ход вакол храма. У канцы адбылося пакланенне мошчам Еўфрасінні Полацкай.

Як паведамілі ў Полацкай Епархіі, на свяце прысутнічалі тысячы людзей: вернікаў, паломнікаў, манахаў з іншых манастыроў і проста тых, хто захацеў знайсці сябе ў пакланенні Богу. Былі там і прадстаўнікі ўлад з Мінска, Віцебска, Полацка.

Свята атрымалася. Але не гэта важна. Важна тое, што пасля яго ў сэрцах людзей засталася часцінка дабрыні і павагі да блізкіх.

Франц Лявіцкі.

# БУДЗЕМ З ДЫПЛАМАТАМІ

Сёння пры ўсебаковым развіцці міжнародных адносін Беларусі з іншымі краінамі становіцца неабходнай наяўнасць у рэспубліцы людзей з дыпламатычнай адукацыяй.

Менавіта гэта паслужыла асноўнай прычынай для стварэння пры Белдзяржуніверсітэце аддзялення міжнароднай падрыхтоўкі.

Як паведаміў рэктар БДУ Фёдар Мікалаевіч Капуцкі, стварыць факультэт з такімі функцыямі пакуль што нельга, таму што для гэтага трэба як мінімум 200 студэнтаў. Але ў перспектыве плануецца і гэта. А пакуль што аддзяленне будзе існаваць пры гістарычным факультэце. Чаму пры гістарычным? Ды проста таму, што на міжнародным аддзяленні будзе шмат прадметаў, якія выкладаюцца менавіта на гэтым факультэце.

Ужо адкрыты прыём на першы курс. Залічыць на міжнароднае аддзяленне плануецца пакуль што 20 чалавек. Лічба, канешне, невялікая, але ж, як вядома, галоўнае не колькасць, а якасць.

Могуць пры жаданні перавесціся на міжнароднае аддзяленне і студэнты, якія ўжо вучацца на іншых факультэтах. Для гэтага неабходны веданне адной ці некалькіх замежных моў і добрая вучоба.

Пасля заканчэння міжнароднага аддзялення выпускнікі будуць працаваць на дыпламатычнай рабоце.

(Наш кар.).

# ЛЕГЕНДЫ ПОБАЧ З НАМІ

Тое, што легенды не паміраюць, вядома ўсім. Але асаблівую асалоду адчувае той, хто можа на ўласныя вочы ўбачыць гэтую легенду, пачуць яе. Для беларускага рок-н-рола (не такога ўжо багатага на свае традыцыі) такой легендай з'яўляецца гурт "Бонда". Песні, створаныя гуртом, нават праз некалькі год пасля развалу гэтага калектыву, вабяць да сябе слухачоў, заваёўваюць першыя месцы ў гіт-парадах. Цікава тое, што ўсе музыкі, што працавалі ў "Бондзе", не страцілі пасля развалу свайго творчага патэнцыялу і натхнення: яны не забыліся на рок-н-рол. На сённяшні дзень імі створаны тры гурты — "Уліс", "Крама" і "Littl Blus Bend". Кожны робіць сваю справу. Але крыўды на сяброў па "Бондзе" ніхто не трымае. І каб пацвердзіць гэта, хлопцы вырашылі сабрацца разам 18 чэрвеня а 19 гадзіне на сцэне Альтэрнатыўнага тэатра (В.Харужай, 31а) і прысвяціць канцэрт светлай памяці заўчасна адышоўшай "Бонды", арганізаваны з дапамогай канцэртнай арганізацыі "Аншлаг". Гэта будзе канцэрт не толькі трох пералічаных гуртоў: музыкі зайграюць і старыя песні "Бонды" ў былым сваім складзе.

Зм. Лукашук.

# Мінск. "Перабудова" працягваецца



На розных участках праспекта Ф.Скарыны ў Мінску замест масы аўтамабіляў, якія мчацца, можна бачыць толькі мітусню каткоў і дарожных рабочых. Праходзіць капітальны рамонт дарожнага пакрыцця. Ад цырка да плошчы Незалежнасці работы ўжо скончаны.

Гэты рамонт прынёс чарговыя клопаты мінчанам – змяніліся маршруты пасажырскага транспарту, павялічыліся і так неймаверныя чэргі на станцыях метро за жэтонамі, жанчыны псуюць абцасы пры пераадольванні вывараченых бардзюрных пліт. Думаецца, гэта акцыя гарадскіх улад, у адрозненне ад іншых, прынясе гараджанам карысць і паездка на тралейбусе не будзе выглядаць так, быццам машына рухаецца па танкадрому.

Фота С.Брушко.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Пётр Васільевіч КРАЧКО,*
*першы намеснік старшыні таможнага камітэта РБ:*

– Сёння на кантрольна-прапускным пункце "Варшаўскі мост" сітуацыя стабілізавалася. Чэргаў практычна няма. Гэта дасягнута дзякуючы створанай нядаўна службе "Інфармацыйна-таможны сервіс". Служба гэта ўстанаўлівае графік перасячэння граніцы, кантралюе экалагічнае становішча прыгранічнай зоны.

У мэтах стварэння спрыяльных умоў для падарожнікаў мы прыступаем да рэалізацыі дагавора, падпісанага 24 красавіка, адным з асноўных параграфаў якога з'яўляецца адкрыццё трох новых пунктаў пропуску. Гэта дасць магчымасць стварыць і нармальныя ўмовы працы для таможнікаў і іншых службаў, і нармальныя ўмовы перасячэння граніцы для падарожнікаў.

Можна сказаць адназначна: мы працуем над тым, каб чэргаў не было. Ды і раней яны былі не з-за дрэннай працы таможнікаў, а з-за таго, што некаторыя людзі не выконвалі правілаў перавозкі рэчаў. Менавіта гэта аднімала ў немалой ступені і час, псавала нервы. Статыстыка канфіскаваных тавараў не адлюстроўвае ўсёй сітуацыі, таму што многія рэчы адразу ж здаюцца ў скупку для рэалізацыі праз гандаль.

Хачу дадаць, што падарожнікі, якія ведаюць і выконваюць таможныя правілы, ніколі не трапяць у непрыемную сітуацыю. Тым жа, хто іх не прытрымліваецца, прыйдзецца пазнаёміцца з законам.

*Уладзімір Васільевіч ПАПКОВІЧ,*
*намеснік дырэктара*
*Мінскага завода медпрэпаратаў:*

– Адна з галоўных праблем для нашага завода на сённяшні дзень – гэта высокія цэны на сыравіну. Дзяржаўных датацый мы не атрымліваем і таму кругом сядзім у даўгах. Але шмат грошай павінны і нам. Пасля распаду Саюза зніклі былыя сувязі, і зараз перад намі паўстала яшчэ і праблема збыту. Цяпер уся сістэма продажу і набыцця сыравіны і медыкаментаў будуецца на папярэдняй аплаце, на якую перайшлі і мы. Таму апошнім часам вельмі цяжка знайсці плацежаздольнага спажыўца. Што датычыць скарачэння работнікаў, то на нашым прадпрыемстве пакуль што ўстрымліваюцца ад гэтага кроку.

*Міхаіл Міхайлавіч СУХІНІН,*
*намеснік начальніка аддзела грамадскіх арганізацый Міністэрства юстыцыі РБ:*

– Зараз грамадскія арганізацыі растуць, як грыбы. Амаль кожны дзень прыходзяць заявы на рэгістрацыю розных партый, прафсаюзаў, згуртаванняў.

На сённяшні дзень у Міністэрстве юстыцыі знаходзіцца ажно 355 заяў з пажаданнямі зарэгістраваць тую ці іншую арганізацыю. Гэта і Задзіночанне беларускіх студэнтаў, і шахматнае аб'яднанне інвалідаў, і згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі... Карацей кажучы, калі пералічыць, то трэба для гэтага выдаваць цэлую газету, а то і часопіс.

Мы рэгіструем усе арганізацыі, калі іх дакументы адпавядаюць існуючаму заканадаўству і арганізацыі гэтыя падпадаюць пад юрысдыкцыю Міністэрства юстыцыі.

Ёсць у нас і такія арганізацыі, якія перарэгістроўваюцца. Напрыклад, ЛКСМБ. Яны ўжо падавалі дакументы, але ў Статуце камсамола не ўсё адпавядала патрабаванням заканадаўства, таму было вырашана вярнуць дакументы для дапрацоўкі. І цяпер, пасля ўнясення паправак, камсамольцы зноў даслалі іх нам. Так што хутка і яны з'явяцца на палітычнай арэне.

*Са сваёй званіцы*

*На сённяшні дзень Беларусь апынулася не ў шматпартыйным, а ў нейкім беспартыйным становішчы. У краіне ўзнік высокі напал палітычных страсцей, на вагі гісторыі была пастаўлена сацыяльна-эканамічная фармацыя, а ў Беларусі — аніводнай арганізаванай партыі. І ўсё ж такая сітуацыя з партыямі ва ўмовах усеагульнага крызісу прынесла нашай рэспубліцы больш карысці, чым страт.*

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.

# Партыйны марафон

Калі пачалося народнае ўзрушэнне, адразу ўзніклі рознакаляровыя плыні, якія разам з канструктыўнымі праграмамі высоўвалі і дэструктыўныя лозунгі. Праяўлялася максімалісцкая накіраванасць асобных грамадскіх груп, якія, сустракаючы супраціўленне старых структур, імкнуліся штучна падштурхоўваць падзеі. Мяркую, што пры наяўнасці арганізаванай на новым падмурку адзінай партыі, нават з дэмакратычнымі высновамі, маглі б ва ўмовах процістаяння адбыцца: узурпацыя ўлады, адраджэнне сацыяльных канфліктаў і нават устанаўленне новага ўціскавага рэжыму. Але... такой сілы не знайшлося. Хаця некаторыя празорцы прадракалі яе з'яўленне.

З другога боку, усё ж варта заўважыць, што ўзровень палітычнай актыўнасці павышаўся ў Беларусі больш павольна, чымся ў іншых рэспубліках. Ды зноў жа цяжка гаварыць пра гэту акалічнасць як пра адмоўную. Ці мала трагічных прыкладаў, калі паспешлівасць і легкадумнасць наваяўленых лідэраў падштурхоўвала да трагічнага штопару.

Большасць маладых партый, прадстаўляючы свой накірунак, не могуць выйсці за праграмныя пастулаты, прадэкляраваныя БНФ, і таму фактычна сталі ягонымі філіяламі, толькі пад рознымі назовамі. На чале большасці беларускіх партый стаяць сябры ці члены фронту. Таму і палітычная дзейнасць іх не розніцца і не ўспрымаецца грамадскай думкай як нешта новае і своеасаблівае. Працэс самавызначэння партый будзе ісці даволі доўга, супярэчліва і вяла. Ствараецца ўражанне, што новыя партыі пакуль патрэбныя толькі іхнім лідэрам. У газетах, па радыё і тэлебачанні толькі і мільгае "старшыня, арганізатар, каардынатар" такой-та партыі, рады, выканаўчага камітэта. Для масавай аўдыторыі гэта добры палітычны практыкум — вызначаць накірунак дзеяння па назвах партый і яшчэ даведнік па сацыяльна-эканамічных праграмах. Не болей.

Няма патрэбы падкрэсліваць амаль тоеснасць накірункаў новых партый, а лепш азначыць, што ў іх адна дэмакратычная праграма з варыяцыямі нацыянальнага адраджэння. Паўтараючы штампаваныя пастулаты пра злачыннасць камуністаў, яны настройваюць значную частку грамадства супраць сябе. Чаму? Ды таму, што "знішчэнне праціўніка" ўжо дастаткова надакучыла і робіць адваротнае ўздзеянне на грамадскую думку. Грамадства, якое добра ведае гістарычныя памылкі рэвалюцыйнага руху, чакае канкрэтных стваральных крокаў ад новай палітычнай плыні. А паколькі немаўляці зрабіць гэты крок вельмі цяжка, то іншы раз узнікае ацэначнае меркаванне: а ці зможа яно зрабіць гэты крок, ва ўсялякім разе, якая для гэтага патрэбна дапамога і грамадская рызыка. У той жа час маладая дэмакратыя баіцца гэтай дапамогі. Яна адмежавалася ад грамадства плотам стэрыльнасці памкненняў у мінулым, сучасным і нават будучым. Але як бы яскрава ні зіхацела зорка надзеі ў сціслы тэрмін атрымаць новую генерацыю палітычнага руху — гэта толькі ілюзія. Прыкладам могуць быць падзеі, якія адбываюцца ў краінах Садружнасці. Ні ў Расіі, ні на Украіне дый у іншых суседзяў не бачна і не чутно пра нацыянальную кансалідацыю. Наадварот, паміж рознымі групоўкамі абвастраюцца супярэчнасці, якія вядуць не толькі да далейшага развалу эканомікі, а напружваюць і міждзяржаўныя зносіны.

Усім зразумела: ідзе жорсткая барацьба за ўладу і добра яшчэ, што малымі сіламі. Любая партыя найхуценька прыкрываецца кужалем парламентарызму і з гэтай пірамiды будуе свае стратэгію і тактыку, лічачы сябе самай перадавой, бязгрэшнай і існай. Аднак, нягледзячы на гэта, у Беларусі ўсе існуючыя групоўкі (названыя юрыдычна партыямі) сутыкнуліся з непаразумелым для іх псіхалагічным непрыманнем.

Новыя партыі сцвярджаюць свабоднае жыццё, вылучаюць такія прапазіцыі, што здаецца, калі чалавек пойдзе за іхнімі праграмамі, то абавязкова датупае да "шчаслівай будучыні". Але... Партыйныя шэрагі не павялічваюцца. Гэта таму, пераконваюць новыя ідэолагі, што беларусы спрадвеку апалітычныя, прызвычаіліся да залежнага, прыгнечанага становішча і ўвогуле яшчэ не прачнуліся ад таталітарнага ўціску. За гэтым праглядвае пакуль што няясна.., але ўсё больш упэўнена: "Мы хочам прывесці цябе, народ, да свабоды, а ты ўсё ўпіраешся!" Гэта як у каінавым войску — з чалавечых цел намайструйце высачэзны курган, адкуль трэба паглядзець у вашую будучыню?

Па праекту закона, які з'явіўся ў друку, выбары плануецца правесці на шматпартыйнай аснове — адкуль будзе абрана палова дэпутатаў, а другая частка — ад акруг. Усё проста і знаёма. Роўна гэтаксама як і ад адной партыі раней. Існуючыя кабінетныя партыі без асаблівай напругі змогуць высунуць і правесці ў парламент "сваіх" дэпутатаў. І... дэпутацкі корпус (палова яго) стане ў новым Вярхоўным Савеце маналітам аднадумцаў.

А як жа другая палова парламентарыяў? Там таксама ўсё прагледжваецца простым вокам. Альянс "партый" і ад акруг выставіць сваіх прадстаўнікоў,а паколькі супрацьстаячых сіл амаль не існуе...

Якім бачыцца наша новапартыйная будучыня? Аналіз паказвае, што партыйнае жыццё ў рэспубліцы знаходзіцца ў працяглым пошуку. Можна назваць гэта пераходным перыядам, але больш тут падыходзіць характарыстыка юнацкага максімалізму, калі хочацца так многа, што вельмі цяжка вызначыць — чаго ж?

Некаторыя нашы партыі ўжо фактычна сталі грамадскімі клубамі і іх назовы не адпавядаюць нават сваім праграмам, а тым больш дзеянням. Хутка яны, пэўна, і назавуць сябе клубамі, бо грамадская думка азначыць іх сектамі, а гэта значыць спіша з ліку дзеючых і нават патрэбных.

Невызначальны лёс у гістарычна рэанімаваных партый: ён паставіўся да іх вельмі неспрыяльна, і ў сучасных умовах няма нават маленькіх прынцыповых зачэпак на стваральную дзейнасць. Яны нагадваюць нейкія аднаўленчыя інтэлігенцкія спробы на музейнае адраджэнне. Але тут, зразумела, хопіць і гуртка гісторыкаў-аматараў, якія ўвогуле і складаюць такія партыі. Толькі памкненні на аснове гістарычнай спадчыны да палітычнага лідэрства ў наступнае стагоддзе, а тым больш тысячагоддзе — гэта фетыш.

Цікава, што кіраўнікі новых партый самі зразумелі апошнім часам, што трэба аб'ядноўваць намаганні, каб праца адыходзіла ад дэкларацый і рухалася да вырашэння канкрэтных нацыянальных праблем. У друку з'яўляюцца заклікі і праграмы, нават нясмелыя дыскусіі па стратэгіі развіцця.

Іншы раз цяжка зразумець, на каго разлічаны тэарэтычныя выкладкі і праграмныя дакументы. Арыентацыя на народ увогуле нікога не натхняе, і асноўная частка насельніцтва, шчыра кажучы, стаіць у баку ад палітыкі. А пра моладзь, дзе якраз самы жыватворны струмень, нешта ніхто не дбае. Больш таго, назіранні над памкненнямі "змычкі" з масамі паказваюць, што новыя палітыкі нібыта наўмысна выключаюць моладзь з арбіты актыўнага грамадскага дзеяння.

Не хочацца гаварыць штампамі пра надзею на падрастаючае пакаленне і неабходнасць яго выхавання, але, як кажуць, клопат прымушае. Тое, што моладзь поўнасцю выпала з грамадскага зроку, ужо дае рэцыдывы парушэння сацыяльнай раўнавагі. Беспрацоўе, жабрацтва, спекуляцыя, злачыннасць усё больш напаўняюць маладзёжнае асяроддзе і не бачыцца ў бліжэйшай будучыні дзейсных тармазоў для спынення амаральнасці, ухілення ад вучобы, працы.

Але гэта сённяшні стан маладых. А што будзе ў бліжэйшы час — і меркаваць боязна. Моладзь ад максімалісцкіх памкненняў можа перайсці да адкрытай канфрантацыі з грамадствам, бо падставы для гэтага ёсць.

Новыя палітычныя павевы маўчаць пра гэтыя праблемы. Яны ж бачаць, што ўмовы для вучобы, працы і адпачынку, г.зн. для нармальнага развіцця асобы ў грамадстве, у нас не створаны. Але тут спрацоўвае страховачны комплекс: лепш праблем не чапляць. І толькі таму, што вырашыць іх даволі складана і не раптоўна. А гэта азначае, што для накаплення палітычнага капіталу такі паварот падзей проста не патрэбны.

Гэта сітуацыя падобна на наўмыснае абвастрэнне канфліктных падзей. Зыходзячы з усяго гэтага, можна зрабіць адназначны вывад, што палітычныя групоўкі (партыямі іх назваць нельга ні па колькасці, ні па дзеяннях) толькі трэніруюцца да магчымых палітычных спаборніцтваў, маюць слабы ўплыў на людзей, а тым больш — на ход гістарычных падзей.

Алег Слука,
доктар
гістарычных навук.



Малюнак В. Саковіча.

*Даведнік "ПАС": суполкі і лідэры*

## Асацыяцыя маладых палітычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь (АМПД)

– арганізацыя незвычайная. Гэта – грамадская арганізацыя, у якую ўваходзяць палітыкі. Яе мэты: аб'яднанне маладых інтэлектуальных і духоўных сіл нашага грамадства, выяўленне новых імёнаў у палітыцы, філасофіі, гісторыі, праве, эканоміцы і іншых галінах, прыцягненне моладзі да пабудовы ў Беларусі прававой дзяржавы. Задачы: устанаўленне дыялогу палітычных груп, рухаў, дзеячаў, асветніцкая і даследчая дзейнасць, выпрацоўка падыходаў да праблем грамадства.



Прэзідэнт АМПД Анатоль Лябедзька, 30 год, дэпутат Вярхоўнага Савета, намеснік старшыні Камісіі па справах моладзі.

**– У вас гучная і досыць незвычайная назва. Хто ж яны, "маладыя палітычныя дзеячы"?**

— Назва адлюстроўвае мэты і задачы нашай арганізацыі, яе склад. Колькасць сяброў Асацыяцыі невялікая — крыху болей за 30 чалавек. Гэта людзі, якія маюць, няхай сабе сціплы, але ўсё ж вопыт палітычнай работы. У Асацыяцыю ўваходзіць група дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ (некалькі сяброў АМПД у свой час прадстаўлялі вышэйшы заканадаўчы орган СССР). Ёсць людзі, якія актыўна працуюць у партыйных структурах: Аб'яднанай дэмакратычнай партыі рэспублікі, іншых партыях і грамадскіх аб'яднаннях, у тым ліку — БНФ, СМБ, Камітэт маладзёжных арганізацый, Асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Цяпер наконт стварэння нашай арганізацыі. Тут мы не першаадкрывальнікі. Аналагічная структура існавала ў рамках былога СССР, цяпер арганізацыі ствараюцца ў рэспубліках СНД. Існуюць асацыяцыі маладых палітыкаў і ў краінах Еўропы. На сусветным узроўні дзейнічае, напрыклад, тая ж Атлантычная Асацыяцыя маладых палітыкаў, краін, што ўваходзяць у блок НАТО. Навошта аналагічная арганізацыя Беларусі? Нам не хапае прафесіяналаў у любой галіне: ад сельскай гаспадаркі да той жа палітыкі. Маючы ўласны вопыт працы ў Вярхоўным Савеце, адзначу, што з-за недахопу прафесіяналаў-палітыкаў моцна церпяць інтарэсы народа. А палітыкі не могуць з'явіцца ніадкуль, іх трэба рыхтаваць. Таму адна з нашых мэт — пошук маладых людзей з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, з задаткамі палітыка і дапамога ім. На сённяшні дзень мы ўжо маем сувязі з "замежжам", прапановы, на базе якіх можна паслаць маладых людзей вучыцца менавіта палітыцы. А ў межах РБ мяркуем арганізаваць пэўны палітычны "лікбез". У рэспубліцы ж не існуе сістэмы падрыхтоўкі палітычных кадраў: старая сістэма разбурана, а новая — яшчэ не створана. Да таго ж на Захадзе кадравае пытанне вырашаецца праз партыйныя структуры: партыі зацікаўлены ў добрым "іміджы", высокім адукацыйным узроўні лідэраў. Існуе своеасаблівае "сіта", якое не дае пранікнуць у "вярхі" тым, каго ў нас завуць папулістамі, альбо проста несумленным людзям. У нас партыі пакуль яшчэ вельмі слабыя. Таму патрэбна арганізацыя, якая давала б і школу, і падтрымку.

**– Па вашым Статуце членам АМПД можа быць той, хто "актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычным жыцці". Які змест вы ўкладаеце ў гэты выраз?**

— Канешне, гэты выраз — штамп. Але што па сэнсу, то чалавек, які займаецца толькі побытавымі праблемамі, да нас проста не пойдзе. А пойдуць тыя, хто ўваходзіць у палітычныя партыі, грамадскія рухі, хто займаецца палітыкай.

**– А што значыць у нашай краіне "займацца палітыкай"?**

— Калі ў мяне пытаюцца: вы палітык ці не, я кажу, што не магу яшчэ назваць сябе палітыкам. Я — чалавек, які займаецца палітыкай. На Беларусі, я лічу, каля 10 чалавек, якіх можна зваць прафесійнымі палітыкамі. Астатнія толькі займаюцца палітыкай, намагаюцца стаць палітыкамі.

**– Займацца палітыкай – гэта змагацца за ўладу?**

— Так, я абсалютна згодны. Інакш навошта ствараць партыі? Для міфічных "інтарэсаў народа"? Гэта водгукі нашага заідэалагізаванага мінулага. Трэба дакладна ўсведамляць, што людзі прыходзяць у палітыку, каб узяць уладу і выкарыстоўваць яе дзеля рэалізацыі сваёй праграмы. Нашая Асацыяцыя не імкнецца да ўлады. Яна перш-наперш павінна стаць тым месцам, дзе ў цывілізаванай форме можна шукаць пагаднення паміж рознымі палітычнымі плынямі, пераважна дэмакратычнага накірунку. Мы зарэгістраваны як грамадская арганізацыя, якая не ставіць палітычныя мэты.

**– Чым займаецца або мяркуе заняцца АМПД?**

— Улічыце тое, што мы толькі ў красавіку зарэгістраваліся як рэспубліканская арганізацыя. Зараз праходзім як бы інкубацыйны перыяд — вырашаем арганізацыйныя пытанні. Але мяркуем ужо ўвосень правесці першы Кангрэс маладых палітыкаў Рэспублікі Беларусь. Думаю, ён з'явіцца актывізуючым імпульсам для маладых. Вырашаецца таксама пытанне аб навучанні за мяжой. Разам з тэлебачаннем плануем стварыць перадачу, якая будзе знаёміць з новымі палітычнымі імёнамі. Апошняе ўхіліць парадокс, калі выбаршчыкі галасуюць за "ката ў мяшку", дасць магчымасць назіраць за станаўленнем палітыкаў.

Спадзяёмся, што ў нашу арганізацыю ўвойдуць прадстаўнікі большасці існуючых партый, рухаў. Тым самым мы зможам мець і інфармацыю пра цяперашнюю сітуацыю ў гэтай галіне, і добрую магчымасць супрацоўніцтва, каардынацыі сваёй дзейнасці.

# АБ ЧЫМ ПРАГНУЎ СЯМЁН ІОСІФАВІЧ СТАНІСЛАВУ СТАНІСЛАВАВІЧУ ПАВЕДАМІЦЬ...

## ФЕЛЬЕТОН

### калі б яго, фермера-пачаткоўца, усебеларускі старшыня-кіроўца ў сваім кабінеціку прыняў.

**По тэорыі верагоднасці Эйнштэйна з Сямёнам Іосіфавічам Зуёнкам сустрэўся я. А павінен быў, гаворачы фізіка-матэматычнай мовай, зусім іншы чалавек. Ды не проста іншы, не якісьці там іншаземец, а чалавек акурат тутэйшы, карэнны мінчук. Па пашпарце, па месцы жыхарства і, што найгалоўнейшае, – пасадзе. Але да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь фермер Зуёнак, па-вясковаму кажучы, не трапіў – вось таму і выслухоўваць яго давялося мне. На што я ніколькі не наракаю, бо вушы ў мяне, нягледзячы на татальную "прыхватызацыю", усё ж казённыя і наведвальнікаў павінны выслухоўваць цярпліва й дзяржаўна.**




## Вёсачка Галькі,

што на Крупкаўшчыне, па-рэкламнаму кажучы, малагабарытная. Вуліц — 1 шт., рэчак — 1 шт., паляводчая брыгада — 3 чалавекі (разам з брыгадзірам).

У свой час вёска грамчэйшай была, вядомай у акрузе дзякуючы газаваму млыну яўрэя Гранштэйна. Цяпер жа славутасць паселішча згасае і ўспыхвае нячаста. Хіба толькі тады, калі калгас паліў скошаную, пазграбаную ў валкі і перазімаваўшую канюшыну на плошчы ў 100 га, або тады, калі калгасныя князькі з'язджаюцца па серадах на нараду, каб за чаркай ды за скваркай абмеркаваць аграрную палітыку харчовай праграмы свайго гаспадарства. Простыя людзі ў такія дні пытаюць адзін у аднаго: "Чаго гэта яны пасярод тыдня баляваць пачалі? Да дажджу гэта, ці да туману?".

Без адказу застаецца гэтая безадказнасць. Мо менавіта з такой статус квы і каровы вушы апусцілі, не верачы, што можна пабіць свае ўласныя рэкорды? Паўтара літра малака дае сярэднестатыстычная халопеніцкая карова свайму старшыні Салохіну.

А вось у фермера Зуёнка — дык васемнаццаць літраў. Праўда, я не піў ягонага сырадою, можа й падманвае!

А калі не маніць, дык паслухайма самога пенсіянера-мацака:

— Дзяцінства было ў мяне цяжкае. Працаваў з маленства. За семдзесят грамаў шумы на адзін працадзень. Толькі свае соткі й кармілі. Бацька мой у трыццаць восьмым рэпрэсіраваны быў. За тое, што ў свой час не пайшоў у калгас. Пад час вайны пабыў я і ў нямецкім палоне, і ў партызанах, і нават турэмнай скарынкі зведаў. Пасля вызвалення да пенсіі працаваў механізатарам. Трымаў дзвюх кароў, бычка, двух парсючкоў... А як пачуў пра Закон аб фермерскіх гаспадарках, дык і пайшоў прасіць зямлю.

Зямлю Сямён Іосіфавіч атрымаў лёгка. Пакуль да Міністэрства сельскай гаспадаркі не дайшоў, мясцовы выканкам ніяк не мог пячатку ў сейфе адшукаць. Ды, зрэшты, вось яна, паперка запаведная! 54 га зямлі — у пажыццёвую спадчыну, для вядзення сельскай гаспадаркі! Але не ведаў яшчэ Сямён Іосіфавіч, які галаўны боль "купіў" ён разам з дзяржактам на валоданне зямлёю.

## Шукай у полі... гаранта

Як хутка высветліў навaспечаны фермер — пенсіянер Зуёнак, любы бізнес, нават земляны, патрабуе грашовых укладаў. Гаршчэчкаў са злотымі ён пад дзічкай не закопваў, таму дастаў "Беларускую ніву". Прачытаўшы ў акулярах абзац аб крэдытаванні фермерства, Зуёнак-бацька ўзняў указальны палец угору і сказаў жонцы, двум сынам, адной дачцэ і нявестцы: "Па закону, шаноўныя, я магу карыстацца, як малады фермер-пачатковец, ільготным крэдытам. Па 25 тысяч рублёў на гектар маю права атрымаць. Пад мізэрную працэнтную стаўку — 2 працэнты. Пагашэнне — ажно праз шэсць гадоў. Во, родныя мае, якая радасць і кайф! Набудзем трактароў, прычапных агрэгатаў, насення... Пабудуем хлеў на 25 худобін, сена нарыхтуем, кармоў назапасім... Агародніну вырасцім, на суседні гароднінасушыльны завод завязём... Грошы атрымаем... Зажывём, незалежныя вы мае!!!"

Планы сям'і зачапіліся каўняром за чарговы бюракратычны кручок-параграф, які зычыў: "Пры выдачы пазыкі і крэдытаў фермерскай гаспадарцы ў момант яе ўтварэння ў якасці гаранта МОГУЦЬ ( — А.С.) выступаць выканкамы народных дэпутатаў і іншыя плацежаздатныя юрыдычныя і фізічныя асобы". Карацей кажучы, для таго, каб райаграбанк пералічыў на адкрыты фермерам рахунак тыя сотні тысяч рублёў крэдыту, фермер ПАВІНЕН шукаць гаранта. Вось і ўся "філязофія" фермерскай незалежнасці: гарант — МОЖА, а фермер АБАВЯЗАНЫ.

Выйшаў Сямён Іосіфавіч на свае землі, зірнуў наўкол і ніводнага гаранта, апроч роднага сельсавета ды няроднага калгаса не ўбачыў. Пачухаў патыліцу небарака, прыгадаўшы эпапею з выбіваннем няўдобіцы, дый пасунуўся па палетках ды па лясах, галёкаючы:

— Гара-а-ант, агу-у-у... Гара-а-а...

## Мінск – сталіца МТЗ

Так даклыпаў Сямён Іосіфавіч да рэспубліканскай сталіцы. Спыніўся — звярнуўся — папрасіў — развёў рукамі — далей пайшоў. І гэтаксама яшчэ некалькі разоў, пакуль абышоў усе буйныя прадпрыемствы, якія дзіваку не дзівіліся, але і гарантам стаць не згадзіліся. А на Мінскім трактарным хадаку крупкаўскаму адказалі па-мінцяжмашаўску: "На жаль, Сямён Іосіфавіч, у нас падсобная гаспадарка ўжо ёсць і таму дапамагчы вам спонсарствам у бягучым стагоддзі лімітаў не маем".

Дастаў тады наш пакутнік з кішэні мінікалькулятар "МАЗ", памножыў кошт сямідзесяцірублёвай вандроўкі ў сталіцу на колькасць гэтых вандровак і пераканаўся: маральныя і матэрыяльныя пазбыткі мае даюць права зрэшты на інтэрв'ю да Шушкевіча ісці. Няхай адкажа мне, дзе таго гаранта шукаць, які б заверыў райаграбанк, што 205 тысяч 209 рублёў і 72 капейкі мне не на набыццё Белавежскай горкай патрэбныя, а на фінансавыя аперацыі згодна з перадаплатай за МТЗ-80, які каштуе 190 тысяч 009 рублёў, а гандлёвая надбаўка на які складае ўсяго 8 працэнтаў, што адпавядае 15 тысячам 200 рублям і 72 капейкам.

— А дзе ў вас тут прыёмны пакой? — запытаўся Сямён Іосіфавіч у доме на плошчы Незалежнасці.

— Прыёмны пакой толькі ў шпіталі бывае, а ў нас тут усе здаровыя, — адказаў фермеру нейкі дэпутат са значкай "Жыве Беларусь, і мы не сканаем!". Тым не менш дэпутат той правёў фермера ў адпаведны пакой і перадаў яго "прыёмшчыку". Хутка высветлілася, што Станіслаў Станіслававіч паляцеў на поўдзень па нафту для незалежнай ад расейскага паліва Беларусі.

Але Сямёну Іосіфавічу ўсё ж удалося распавесці прыёмшчыку аб сваёй "гарантдысеі". Адказалі фермеру гэтак жа шчыра, як і ён распавядаў, маўляў, Нёман упадае ў Балтыйскае мора, а Мінск з'яўляецца сталіцай СНД.

## У рэдакцыі "Гарчычніка"

Вось так і трапіў да нас у рэдакцыю дзядок з надта папулярным прозвішчам Зуёнак. Распавёў ён і пра свае гароты з пошукамі гаранта, і пра тое, як калгас засеяў ягоныя 25 гектараў без парады з юрыдычным уладаром, і аб тых суседніх калегах-фермерах, якія з рыдлёўкай гектары сваёй зямлі насеннем морквы ды бульбы аплаадняюць. Распавёў Сямён Іосіфавіч і пра аб'ектыўную безгаспадарчасць калгасную і пра кулацкія свае планы ўласныя: адрадзіць сапсаваныя глыбокім узорваннем палеткі, пасеяць тое, што яшчэ ня позна для сёлетняй пасяўной кампаніі; гадаваць ялавічыну на карысць беларускамоўнага спажыўца, здаваць на піццё дзяржаве малако і г.д. у эгаістычным стылі.

## Каментарыі спецыялістаў

Як мне паведаміў намеснік начальніка аддзела сацыяльнага развіцця і сацыялістычнага спаборніцтва, загадчык сектара арганізацыйных пытанняў падсобных промыслаў і прыватных сялянскіх гаспадарак Міністэрства сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь Алег Фёдаравіч Корань, "адзін фермер не вырашыць усе нашыя праблемы". Падмацаваў сваю тэзу міністэрскі функцыянер тым аргументам, што на сённяшні дзень рана яшчэ спісваць з рахунку дасягненні калгасаў. "Па многіх культурах мы сёння знаходзімся на еўрапейскім узроўні. Калгасны лад вядзення гаспадаркі пацярпеў з-за таго, што сам жа й адчужыў селяніна ад зямлі, тэхнікі. Па-другое, прамысловасць значна абрабавала вёску, забраўшы ў горад лепшыя кадры. Рана ці позна ўсе фермеры вернуцца да кааперацыі, бо без яе нельга фізічна ажыццяўляць севазварот. У сельскай гаспадарцы йдуць складаныя працэсы, сапраўдная ломка. Апошняе заўсёды суправаджаецца спадам вытворчасці. Але гэта будзе цягнуцца няшмат часу. Паскарэнне ўжо відавочна".

Вось так абнадзеіў нашага чытача Алег Фёдаравіч. Але на пытанне "Дзе адшукаць гаранта?" так і не адказаў. Па вялікаму рахунку. Па-гамбургскаму, так мовіць.

За яго гэта зрабіў іншы кабінетны функцыянер, які, на мой погляд, з'яўляецца акурат тым бюракратам (у лепшым сэнсе гэтага незаслужана скампраметаванага "перадубовай" слова), які фермеру неабходны як арганічныя ўгнаенні жыту. Вось аб чым распавёў мне спадар Шчукін з Сялянскага саюза:

— Нам вядома пра "гарантны сіндром". Неканкрэтовасць фурмулёўкі адносна гаранта ў Законе аб фермерскай гаспадарцы на месцах ператварылася ў праблему № 1. Трыццаць працэнтаў фермераў, якія маюць уласную зямлю, не атрымалі сёлета крэдытаў. У мінулым годзе з выдзеленых 200 мільёнаў рублёў была скарыстана толькі адна дзесятая частка. Бо тады ў фермераў былі праблемы з атрыманнем зямлі. Цяпер жа, калі яны яе маюць, грошай на ўсіх не хапае. Ліміты скарыстаны менш як за палову каляндарнага года.

Сялянскі саюз хадайнічаў перад С.С.Шушкевічам, каб перакінулі мінулагоднія незапатрабаваныя мільёны на 92-гі год, — цішыня.

Старшыня ВС даручыў дэпутату Унучку адрэагаваць словам ці справай. А той — у маўчанку гуляе. Тады сялянскасаюзаўцы другое пісьмо Шушкевічу ўручаюць. 29 мая то было — той жа самы дыфузны эфект. А пісалася ў лісце пра тое, што 600 фермераў просяць даць ім грошы агульнай сумай каля 200 мільёнаў "драўляных". Вы здзіўлены фермерскімі амбіцыямі? А вы ведаеце, што ў 10 разоў падаражэлі ня толькі шкарпэткі фабрыкі імя Крупскай, але і будматэрыялы, трактары, іншая сельгастэхніка. Трактар МТЗ-82, да прыкладу, цяпер каштуе каля 335 "тышчонцаў". Ды й ён акупіцца ў фермера, калі б таму не сыпалі салетру на раны ды не рабілі з яго казла адпушчэння. Расшыфраваць гэты мой ліранічны пасаж?

Грошы, прызначаныя фермерству, выдаюцца паквартальна... перасоўным механізаваным калонам, будмантажупраўленням і іншым меліяратарам, будаўнікам, газа- і электрыфікатарам. Спачатку фермера заганяюць за трыццаць кіламетраў ад роднай хаты, а потым цягнуць да ягонай гаспадаркі надзейныя лініі электраперадач, шасейныя аўтабаны ды іншыя там "інхронструктуры".

Вось і атрымліваецца ў выніку такога "разумнага" фінансавання, што абвешчаная антынароднай меліярацыя працягвае спрамляць рэчкі і нашпігоўваць тарфянікі керамічнай трубкай, па радовішчных запасах якой Рэспубліка Беларусь упэўнена займае першае месца ў свеце. А тым часам 30 працэнтаў фермераў не маюць свайго ўласнага жылля. Як вынік, новы тып беларускага фермера — сезонны. І тут мы на першым месцы ў свеце.

Што ж у такой трагікамічнай сітуацыі прапануе Сялянскі саюз? Нічога складанага і супрэматычнага. Чысты рэалізм, да якога прыйшлі ўсе еўрапейскія краіны: стварэнне страхавога фонду.

Сялянскі саюз не стаў чакаць панядзелка і ў той жа дзень пачаў шукаць патрэбныя на адкрыццё страхавога фонду 2 мільёны рублікаў. Фермеры адразу ж наскрэблі восемсот тысяч, аграпрамбанк паабяцаў тое-сёе са сваіх мільёнаў падкінуць. Падлічылі сялянскасаюзаўцы — крыху нестае грошай да суцэльнага шчасця. Пабеглі да міністра сельскай гаспадаркі спадара Мірачыцкага. А ён толькі тым павыхваляцца можа, што з выдзеленых на 1991-92 гады 27 мільёнаў на падтрымку фермерскіх гаспадарак ажно 3 мільёны асвоены. Карацей кажучы, цывілізаваная фермерызацыя сельскай гаспадаркі нам пакуль што не пагражае. Адзінае выйсце — хітрыкі тыпова саўковай афарбоўкі, у выніку якіх працэнтныя стаўкі пойдуць на карысць тых, хто ўзяўся накарміць нас турэцкімі бананамі, набытымі ў Польшчы.

## Эпілог

Сямён Іосіфавіч з'ехаў у свае Галькі. Спадар Шушкевіч пайшоў рыхтавацца да інфляцыі. Алег Фёдаравіч Корань накіраваўся ў магазін па капусту. Спадар Шчукін пайшоў у штаб ЧБВА выбіваць спісаныя танкі для сваіх правінцыяльных сяброў. Святло пагашана і сцэна апусцела. Адзінае, што не паведаміў чытачу драматург, гэта змест маналога фермера Зуёнка, які ані касманаўту, ані старшыні пісьменніцкай рады сваяком не з'яўляецца, але ў высокія кабінеты пайсці не пабаяўся. Каб сказаць там адзіную, горкую, але шчырую праўду: "Шаноўны Станіслаў Станіслававіч, калі Вы не можаце закон цвёрды прыняць, дык і будзьце тады маім гарантам!".

Андрэй Смірноў,
аддзел сатыры, гумару і фельетонаў.
*Тэл. 32-13-04.*

*Мінулае: вырваныя старонкі*

# Нявыдуманы Керанскі



Аляксандр Фёдаравіч Керанскі ў нашым усведамленні існуе як нейкі карыкатурны вобраз. У савецкіх кінастужках Керанскага прадстаўлялі неўраўнаважанай, паталагічна самалюбівай істотай. Якім ён быў на самай справе?

Паэт і журналіст, адзін з апошніх людзей, якія блізка ведалі Аляксандра Керанскага, Уладзімір Чугуеў:

— Мне ён падаўся тыповым прадстаўніком рускай інтэлігенцыі, у якога не было і цені афектацыі. Гэта быў чалавек крайне прыемны ў зносінах. Любоў да Радзімы ён захаваў да старасці. Значок у выглядзе трохколернага рускага флага быў заўсёды прыколаты да лацкана яго пінжака. Яго цікавіла ўсё, што адбывалася ў Расіі. Ён заўсёды адгукаўся аб Радзіме з глыбокім спачуваннем, застаючыся пры гэтым няўхільным ворагам бальшавізму.

Неяк Керанскі сказаў: "Мы ў юнацтве, на жаль, не вельмі ўважліва чыталі Дастаеўскага, а між тым там было шмат павучальнага". Ён растлумачыў, што ў "Д'яблах", напрыклад, апісаны тыя метады, якімі карысталіся яго палітычныя праціўнікі.

Відавочцы ўспамінаюць, што ў апошнія гады ён быў чалавекам памяркоўным. У эміграцкіх колах гаварылі, што ў тыя рэвалюцыйныя дні ён быў вельмі актыўным, вельмі ўцягнутым у працэс падзей. Горка жартавалі: калі б у яго было якое-небудзь захапленне (напрыклад, рыбная лоўля), якое дазваляе засяродзіцца, руская гісторыя, магчыма, пайшла б па іншаму шляху.

У апошнія гады жыцця ён дрэнна бачыў, і таму прасіў яму чытаць. Прычым, прасіў рабіць гэта крайне арыгінальным чынам: спачатку трэба было чытаць усё, што датычыла прафсаюзнага руху ва ўсім свеце, потым — усё, што датычыла левых партый. І ўжо пасля гэтага трэба было чытаць цікавыя матэрыялы па меркаванню чытаўшага.

Падобная манера чытання адлюстроўвала яго палітычнае крэда. Ён захаваў да старасці партыйны падыход да жыцця. Керанскі застаўся сацыялістам. Так ён быў выхаваны, такая была яго іерархія каштоўнасцей. І ў гэтым была яго драма. Няма ніякага сумнення ў яго прыхільнасці дэмакратыі, але ў яго палітычным пачуцці сумненні былі вялікія. У рэвалюцыйныя дні Керанскі займаў пазіцыю цэнтра паміж дзвюма супрацьстаячымі палітычнымі сіламі, якія прэтэндавалі на поўную ўладу,— Часовым урадам, які выйшаў з часовага камітэта Думы, і Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, аб'яднаўшым левыя партыі. Сам ён сумяшчаў тады пасады старшыні Часовага ўрада і намесніка старшыні Савета.

Палітычны спектр тады быў вельмі адсунуты ўправа. Самай правай групоўкай лічыліся кадэты, якія, як вядома, былі партыяй лева-ліберальнага боку. Левыя эсэры, ці немарксісцкія сацыялісты, да якіх належаў Керанскі, гаварылі, што злева ў іх ворагаў няма. Такім чынам, кожны, хто быў лявейшым, аўтаматычна атрымліваў перавагу. І менавіта з-за сваіх палітычных перакананняў Керанскі не мог захаваць цэнтрысцкую пазіцыю. Яго палохала магчымасць устанаўлення дыктатуры ваенных, і вольна ці нявольна ён схіляўся ўлева.

Адзінай сілай, якая магла б яго выратаваць, была армія. Але адносіны з ёй ён сапсаваў пасля таго, як аб'явіў здраднікам і арыштаваў генерала Карнілава, якога сам жа паклікаў на дапамогу ў цяжкі момант. Увогуле, як заўважыў А. Салжаніцын, "прасвістаў" Расію бальшавікам.

Пасля вядомых уцёкаў з Зімняга, да восені 1918 года Керанскі знаходзіўся ў Расіі, жывучы на кватэрах членаў эсэраўскай партыі, якая была самай шматлікай і валодала вялікім вопытам нелегальнай работы. Хаця ў тыя гады рэвалюцыйнага хаосу ніхто не ставіў сур'ёзнай задачы арыштаваць яго. Выехаць Керанскаму дапамаглі англійскія дыпламаты.

Спачатку ён пасяліўся ў Вялікабрытаніі. Потым пераехаў у Берлін, які быў на той момант цэнтрам скаплення рускай палітычнай эміграцыі. Цікавы факт: у Берліне ў 20-я гады выходзіла больш рускіх газет і кніг, чым нямецкіх. Затым у 30-я гады ён перабраўся ў Парыж, куды да таго часу перамясціўся цэнтр рускай зарубежнай культуры.

Няпраўда, што ён жыў у поўнай ізаляцыі. Ён актыўна выступаў на эміграцкіх сходах, рэдагаваў газеты, пісаў артыкулы. Керанскі быў адным з нямногіх, хто ўпарта дабіваўся прадастаўлення палітычнага прытанішча бежанцам з Савецкай Расіі ў час другой сусветнай вайны. Гэта было ў той час непапулярнай пазіцыяй — тады нават у эміграцкіх колах гаварылі пра Сталіна ледзь ці не як пра выратавальніка Радзімы.

Ён разам з іншымі выдатнымі прадстаўнікамі рускай эміграцыі прымаў удзел у перагаворах з амерыканскімі заканадаўцамі аб стварэнні радыё "Свабода".

Яго дом не быў келляй манаха. Аляксандр Фёдаравіч быў чалавекам такога складу, што проста не вытрымаў бы адзіноты. Яму неабходна было асяроддзе для актыўных зносін. Але нельга адмаўляць і таго, што многія ў эміграцыі адносіліся да яго пастаці непрыязна. Яго папракалі за цэнтрызм, які, на думку ваенных, напрыклад, стварыў спрыяльныя ўмовы для бальшавіцкага перавароту. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён ішоў на кантакт з арміяй толькі адчуваючы пагрозу сваёй уладзе. І вельмі многія ўскладвалі на яго адказнасць за гібель царскай сям'і, якая па яго ўказанню (многія пра гэта сёння ўпарта забываюць.— У.Я.) была вывезена ў Екацярынбург.

У гэтым плане Керанскі лічыў, што да яго адносіцца несправядліва. Асабліва балюча ён адносіўся да абвінавачванняў у дачыненні да гібелі царскай сям'і. Па гэтай прычыне ён гаварыў, што, адсылаючы царскую сям'ю на Урал, кіраваўся самымі лепшымі намерамі. Паводле яго слоў, ён хацеў засцерагчы членаў імператарскай фаміліі і з гэтай мэтай адпраўляў іх у глуш, як мага далей ад рэвалюцыі. Сведчанні відавочцаў пацвярджаюць тое, што ён адносіўся да царскай сям'і з вялікай сімпатыяй...

Важны і такі момант. Керанскі і Ленін. Бацька Керанскага, як вядома, быў дырэктарам гімназіі, у якой вучыўся Валодзя Ульянаў. Але бацька апошняга загадваў народнай асветай у губерні. Цяжка сцвярджаць, каб яны цесна сустракаліся ў тыя гімназічныя гады. Керанскі быў на некалькі гадоў маладзейшы, а ў дзяцінстве нават розніца на год парой з'яўляецца раздзяляльнай рысай.

Калі аднойчы ў яго прысутнасці было сказана, што калі асоба Джугашвілі ўжо не пакідае ніякіх ілюзій, то асоба Леніна захоўвае нейкую прыцягальнасць, Аляксандр Фёдаравіч прыкметна сумеўся пасля такіх слоў. Пасля паўзы ён сказаў: "Вы мне пра Ульянава нічога не гаварыце".

Лёсу, відаць, так захацелася, каб не толькі лёс Керанскага быў звязаны з імем Леніна, але і смерць. Ён памёр у год, калі ў СССР шырока адзначаўся стогадовы юбілей з дня нараджэння Леніна... Ён памёр у Лонданскай бальніцы ў 1970 годзе. Апошнія гады Аляксандр Фёдаравіч жыў у Амерыцы, але ў Англію прыязджаў даволі часта — наведаць сыноў. Іх у яго было два. Старэйшы быў буйным спецыялістам па будаўніцтву мастоў. Малодшы — інжынерам-электрыкам.

Магіла Аляксандра Фёдаравіча Керанскага знаходзіцца на могілках Патні Вэйл. Вартаўнік тлумачыць цікаўным, што рэдка хто пытае да гэтай магілы дарогу...

**У. Ягорычаў, кандыдат гістарычных навук.**





– Алег Антонавіч, Вы – дэкан філфака, вучыце любіць роднае слова. Як, на вашу думку, ці шануюць нашу мову, наша слова, так бы казаць, у шырокіх колах беларускага грамадства?

— Гэта гледзячы хто. У адраджэнцкіх колах — поўнае шанаванне, поўнае разуменне. Але, на жаль, пераважае большасць — асяроддзе, якое, часам выдатна валодаючы беларускай мовай, проста яе недаацэньвае. Лічаць яе нячыста беларускай, лічаць трасянкай, блытаюць з нейкім мясцовым дыялектам. Карацей, няма ў нас культуры разумення мовы, разумення яе наяўнасці, бо мова радыё, мова друку адрозніваецца ад мовы гутарковай. І вось з-за

# Алег Лойка:

# «Білінгвізм – антынародная тэорыя»

*Алег Антонавіч Лойка, дэкан філфака Белдзяржуніверсітэта, згадзіўся даць нам інтэрв'ю ў складаны не толькі для філалагічнага факультэта, але і для ўсёй беларускай адукацыі час. Але член-карэспандэнт АН РБ, доктар філалогіі, прафесар А. Лойка на цяжкасцях не засяроджваўся. Асноўнае ў яго дзейнасці — пошук перспектыў, барацьба са старымі, заідэалагізаванымі тэорыямі.*

гэтых нажніц паміж мовай літаратурна-апрацаванай і гутарковым маўленнем розных рэгіёнаў — збоі, калейдаскоп разуменняў, адсутнасць згоды. Гэта ж усебеларускі клопат, каб кожны рэгіянальны беларус — ці то з Гародні, ці то з Віцебска, ці з Магілёўшчыны, каб ён разумеў, што гаворыць на ўласна беларускай, народнай мове, якая стала асновай літаратурнай. Яна ж і сёння выпрацоўваецца. Літаратурная мова 20-х гадоў не падобна на літаратурную мову нашага часу, мова сталінскай эпохі, калі панавала русіфікацыя, не падобна на тую мову, якой гавораць "тутэйшыя", зарубежжа... Але ўсё гэта — беларушчына, шматаблічная і ў шматаблічнасці сваёй прыгожая і цікавая.

Калі віцебскі селянін сцвярджае, што не гаворыць па-беларуску — я здзіўляюся, бо на самай справе ён гаворыць на той мове, што стала асновай мовы Быкава, Барадуліна, Еўдакіі Лось, Законнікава — усіх, хто нарадзіўся на Віцебшчыне і цяпер нясе сцягі нашай паэзіі і прозы.

– Ці значыць гэта, што рускамоўнае насельніцтва аб'ектыўна павінна дайсці да разумення неабходнасці ўжывання беларускай мовы?

— Я не разумею, як просты чалавек, той самы рабочы трактарнага завода не можа ўцяміць, што яго мова не руская, бо наша насельніцтва мысліць па-беларуску, і толькі лексіку выкарыстоўвае рускую. І ўсё гэта так перакручана, што тыя ж расейцы, паслухаўшы, здзіўляюцца: што гэта за мова такая? Для іх зразумела, што не расейская гэта мова, а нашы ж, гаворачы на гэтай мове, думаюць, што размаўляюць па-руску, маўляў, на мове "высокай, кніжнай, культурнай, інтэлігентнай" — адным словам, рускай. Беларуская ж мова і цяпер для некаторых простая, можна працягваць — хамская, мова неадукаваных людзей...

Вось у нас нядаўна было на факультэце абмеркаванне праблем развіцця беларускай філалогіі, і адна прафесар выступіла з заявай: маўляў, беларуская мова, беларуская культура аказалася не ў стане выхаваць сваіх дзяцей, яна дазволіла, саступіла месца, падставіла плячо для рускай мовы, рускай культуры... І гэтыя высновы — у наш час! Ужо вядома, што ў XIX стагоддзі русіфікацыя заахвочвалася царызмам, праваслаўнай царквой, потым прыйшоў Сталін... Гэта быў генацыд нацыі — якое ж тут падстаўленне пляча? Гэта было свядомае знішчэнне культуры народа — і фізічнае, і духоўнае.

Працэс усведамлення беларускасці пачаўся ў асяроддзі шляхецкай інтэлігенцыі, потым народнай інтэлігенцыі, у 20-х гадах уступіла сялянства, мястэчкоўства... Можа гэта і агульныя развагі, але каб праблема менавіта ўсведамлення мовы для нашага народа была б вырашана — усё было б інакш...

Ну што з таго, што мы размаўляем па-рознаму? У тых жа расейцаў навагародзец і жыхар Сімферопаля хіба аднолькава гавораць? А ў Польшчы хіба кракавяк мазура альбо кашуба перабліытае? Але народ жа адзіны!

– А што Вы скажаце аб трасянцы?

— А што трасянка? Стварылі міф, што гэта хібы развіцця мовы... А трасянка — натуральная з'ява! Кепска, калі гавораць напалову па-руску, напалову па-польску, а калі сыходзяцца элементы розных беларускіх гаворак — гэта не бяда. Мова пачынаецца з сінтаксісу, а што ён, калі не адлюстраванне характару мыслення? І наш сінтаксіс якраз праглядаецца ў рускамоўнага насельніцтва рэспублікі.

У сённяшняй сітуацыі для культурнага адраджэння, для яднання ўсіх беларусаў, для вялікай справы асветніцтва важна не так валодаць самой моваю — важней разуменне, важней стаць пабornікам ідэі адраджэння, ідэі, якая павінна цэментаваць падмурак нашай культуры. Адраджэнец — гэта той, хто прымае ідэю, сыходзячы з таго, што мы — суверэнная дзяржава, якая будуе сваю культуру, куды ячэйкамі прыўваходзяць культуры нацыянальных меншасцяў.

– Алег Антонавіч, Вы вядомы як барацьбіт супраць прынцыпаў білінгвізму...

— Менавіта на ім раней грунтавалася беларуская філалогія. Двухмоўе — тэорыя ўчарашняга дня, тэорыя таталітарызму, якая служыла сталіншчыне і русіфікатарству. Білінгвізм — антынародная, антынавуковая, антынацыянальная тэорыя. Яна праслаўляе і апраўдвае забіццё адной мовы другой. Нават само слова — "білінгвізм" — маўляў, білінгву, бі мову! Гэты тэрмін і азначаў першапачаткова забіццё адной мовы другой. Ёсць у мовазнаўстве іншы тэрмін — дыглоссе, які пра развіццё раўнапраўных моў, так бы казаць, у ідэале. Там гэта прадугледжана. А білінгвізм узнік з практыкі каланіяльных народаў, з практыкі каланіяльнай Індыі, Афрыкі... каланіяльнай Беларусі, каланіяльнай Украіны. І вось гэтая догма, народжаная каланіялістамі, павінна быць развенчана.

– Але прыхільнікі білінгвізму не здаюць пазіцыі?

— Вядома! Напрыклад, у нас на факультэце моцная тэарэтычная база мовазнаўства — і беларускага, і рускага. Але рускамоўнае мовазнаўства ў першую чаргу абапіраецца на тэорыю білінгвізму. Пара ўжо пераходзіць на нацыянальную моўную аснову і ў школе, і ў ВНУ, а значыць, рабіць нацыянальную мову асноўнай у філалогіі як такой. І хопіць спяваць асанны білінгвізму. Чалавек нараджаецца ад адной маці, пры адной мове, адной гісторыі, і ён можа быць чалавекам толькі ў гэтай адзінкавасці сваёй — як у дома можа быць толькі адзін падмурак. І тут не проста сутыкаюцца амбіцыі — хто б на маім дэканскім месцы ня быў, павінен развіваць навуку ў бок нацыянальны, ад старых догмаў пераходзіць да задач сённяшніх.

Працэс адраджэння праходзіў пэўныя перыяды — яно ішло і ад "Нашай Нівы", і праз 20-я гады, ды й у перыяд рэпрэсій нават! У яго былі пэўныя рамкі, адраджэнне адваёўвала крок за крокам у чыноўніцтва, у партакраты, адваёўвала думку за думкай, ідэю за ідэяй, твор за творам... Тады гэта не дазвалялася, а цяпер — нават цяпер! — калі мы маем магчымасць гаварыць, усё роўна прыходзіцца змагацца. І зноў супраць таго ж білінгвізму. Я цяпер і для сябе асэнсоўваю, студэнтам тлумачу, як развівалася мова, якія этапы прайшла, і сам адкідваю старое... Трэба вырывацца з кута, куды нас запхалі. А калі чалавек з пятлёй на шыі працягвае тую пятлю абараняць...

– Можа, гэта палітычны заказ?

— Чалавеку цяжка перамагчы сябе, пераламаць. Нават выкладчыкі грамадскіх навук пераконваюць сябе, прыходзяць да новага паразумення, новага тлумачэння рэчаіснасці... Іншыя ж толькі форму змяняюць, сэнс застаецца, а гэта ж ужо ваяўнічае рэтраграмадства, хамелеонства натуральнае! А ў цэлым усё ўпіраецца ў непрыняцце адраджэння як такога.

Зараз у нас на факультэце русісты пачалі крычаць, што іх душаць, што іх выганяюць, што іх скарачаюць... Гэта няпраўда. Ім прапануюць мацаваць, развіваць тыя набыткі, якія ў іх ёсць. Мы — фарпост адукацыі для замежжа — для Афрыкі, для Азіі, нават нядаўна сорак чалавек кітайцаў папрасілася да нас. Я першы гэта падтрымаў — хай прыязджаюць на Беларусь, вывучаюць расейскую мову. Але гэта — замежныя грамадзяне! Свайго студэнта мы павінны вучыць на беларускай аснове. А пакуль што... І вярхі не хочуць, ды й нізы не асабліва жадаюць... Усе чакаюць. Чаго? Чыноўніцтва чакае вяртання!

– А ці магчыма яно, на вашу думку?

— Мы ад гэтага не застрахаваны. Усе кіраўнікі засталіся на месцах, ім толькі дай каманду вярнуцца да старога — яны яе выканаюць. Праўдападобна новага ў кольксасным плане значна менш... Але думаю, што тыя ж міжнародныя абставіны не дадуць скансалідавацца сілам учарашняга дня.

Наша гістарычная арыентацыя была адкрытая на Захад, мы былі фарпостам Еўропы. Цераз нас ішлі ўплывы Захаду на Усход, Усходу на Захад. І нам дзякавалі за гэтае! Ад нас выйшаў Сімяон Полацкі, які стаў заснавальнікам рускай паэзіі, рускай драматургіі, а з'явіліся ў Расіі Пушкін, Дастаеўскі — сталі нам роднымі...

– Алег Антонавіч, якія ж глабальныя праблемы – навуковыя, эканамічныя – стаяць перад беларускімі філфакамі?

— Асноўная — развіццё ўласнабеларускай філалогіі. Трэба ўдакладняць арфаэпію, бо мы страцілі гучанне мовы, сінтаксіс — ён вельмі русіфікаваны. А лексіка! Такая блытаніна тут! Іншыя кажуць: "Я г у л я ю на скрыпцы". А трэба на ёй іграць! Супярэчаць: "Маўляў, іграць — рускае слова..." Дык гуляць жа можна ў футбол, а на Беларусі стагоддзямі ў адносінах ды музычных інструментаў ужывалі дзеяслоў "іграць", "граць"...

Для таго, каб наша філалогія інтэгравалася ў еўрапейскія навукі, яна павінна стаць полілінгвістычнай. Менавіта не бі... — а полілінгвістычнай. Мы ніяк не адмаўляем ні рускай, ні польскай, ні нямецкай мове, асабліва ж тым мовам, якія гучаць з трыбун ААН — мы павінны вучыць нашых людзей кантактаваць са светам. Мы за такую сістэму адукацыі, у выніку якой рэспубліка мела б беларускага арабіста, беларускага кітаязнаўцу... Першыя захады для гэтага зроблены. Мы неўзабаве створым аддзяленне, дзе студэнты на беларускай аснове будуць вывучаць польскую філалогію. На чарзе — беларуска-класічнае аддзяленне з лацінскай, старажытнагрэчаскай мовамі. Далейшыя планы — вывучаць чэшскую, балгарскую, славенскую, і само сабой украінскую, літоўскую мовы. Як так — не ведаць моў бліжэйшых суседзяў? У нас адзіны паэт Анатоль Разанаў ведае мову літоўцаў і цудоўна перакладае тамтэйшых паэтаў. Мы і раней пасылалі студэнтаў на стажыроўкі ў іншыя рэспублікі, але ўсё гэта было спарадычна. Цяпер жа мы павінны стаць сапраўдным цэнтрам лінгвістыкі. Калі будуць спрыяльныя гістарычныя абставіны — я ўпэўнены ў поспеху.

– Я хацеў бы завастрыць увагу на беларускай граматыцы. Як Вы ставіцеся да так званай "тарашкевіцы?" Ці ўплывае яна і цяпер на развіццё моўнай сітуацыі?

— "Тарашкевіца" робіць карысную справу, але, відаць, часткова. Усіх праблем зварот да граматыкі Я. Лёсіка ці Б. Тарашкевіча не вырашае. Асабіста я — з тымі мовазнаўцамі, якія імкнуцца выкарыстаць вопыт усіх граматык. Яшчэ з юнацтва вывучаў вельмі прадуктыўны метад, які прапаноўваў паэт У. Дубоўка — замена асобных літар, напрыклад, дз, дж, на нейкія, як ён сам казаў, адмысловыя знакі, якіх няма ў кірыліцы. Вось гэтае адмысловае напісанне, можа, і паўплывала б на нашых мовазнаўцаў, ды і тыя ж газеты глядзеліся б значна больш адметна. Памойму, трэба вяртацца і да двайнога напісання — лацінкай і кірыліцай, як тое было ў традыцыях Беларусі. Хоць гэта і большыя выдаткі, але нават у беднай-беднай Беларусі, як мы называлі раней перыяд першай хвалі адраджэння, нашы продкі дабіваліся набору беларускага слова двума алфавітамі...

– Алег Антонавіч, як вядома, кадры вырашаюць усё. Ці ёсць нам на каго спадзявацца, ці ёсць на Беларусі філолагі, якія ўздымуць нашу мову на ўзровень сусветнай?

— Так, такія навукоўцы ёсць. Я не стаў бы нікога называць канкрэтна, але і ў нас на факультэце вакол кожнага з педагогаў, якія вядуць семінары, склаліся моцныя гурткі студэнтаў, якія вераць гэтым выкладчыкам. У будучым атрымаецца, так бы сказаць, сонечная сістэма — вакол тых студэнтаў, якія зараз "абарачаюцца" вакол прафесара, у сваю чаргу стануць абарачацца "спадарожнікі", будучыя студэнты. Працэс непарыўны, і мова наша неўміручая. Будучыня ёсць.

– Дзякуй вам, Алег Антонавіч, прыемна слухаць чалавека, які ў нашым песімістычным грамадстве настройвае на хвалю надзеі. Поспехаў Вам.

Гутарку вёў
Алесь Палынскі.

25 траўня ў мінскім Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная паэту, кампазітару і мастаку – Новіку-Пяюну Сяргею Міхайлавічу. У зале было поўна добрых твараў, кветак, над усім панавала атмасфера нейкай светлай узнёсласці. Сябры сабраліся ў чарговы раз, каб выказаць сваю ўдзячнасць С.М.Новіку-Пяюну.

Чыталі свае вершы, прысвечаныя песняру паэты Віктар Шніп, Васіль Супрун, Сяргей Законнікаў, Васіль Жуковіч; цёплыя, добрыя словы падзякі выказалі паэты Яр.Пархута, Уладзімір Дамашэвіч, сп.Галіна Прыма, загадчыца беларускамоўнага дзіцячага садка "Заранка", сп.Валянціна Якімовіч, выкладчыца беларускага ліцэя, сп.Шышыгіна-Патоцкая, настаўніца нясвіжскай СШ № 3, Зміцер Марчук, інжынер, Вольга Зубавічанка, выкладчыца беларускага ліцэя, Валеры Пазнякевіч, студэнт філфака БДУ, выканаў песню на словы і музыку Новіка-Пяюна "Случаначка", Жэнечка Жукавічанка станчыла польку. Таксама выступіў музычны дзіцячы калектыў "Званочкі" (кіраўнік кампазітар Валянціна Сярых), гурт "Ліцьвіны", тэатр з Мінскага педінстытута "Жывое слова", хор настаўнікаў, хор Белдзяржкансерваторыі імя Луначарскага. Вяла вечарыну сп. Дзягілева Галіна Аляксееўна, артыстка.

# "Я ЖЫЎ ДЗЕЛЯ ЛЮДЗЕЙ..."



• 1943 г.

Я не хачу сказаць, што мы нараджаемся пакутаваць, але дзеля ачышчэння і набыцця ведаў, каб праверыць на сабе непахісныя сусветныя законаў жыцця і праз выпрабаванні знайсці адзінае тлумачэнне ўсяму. Максімум адчуць і сыграць як мага больш роляў за адведзены час.

Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн з'явіўся для мяне першым глыбокім увасабленнем жыццёвай мудрасці і сілы, таму што ён здолеў адчуць, што ля вытокаў усяго — любоў. Любоў — нават праз жахлівае зло, а таму і — вышэйшая.

Ягоны лёс — чарада няспынных чалавечых выпрабаванняў. Заўжды аказваўся без віны вінаватым. Спачатку быў у высылцы пры белапольскай уладзе за тое, што стварыў у сваіх Лявонавічах беларускую школку, хор, ансамбль танца і народны тэатр; потым знаходзіўся ў лагеры смерці Калдычава, а затым — высылка пад час страшных пяцідзесятых — у Якуцію.

"Я люблю, люблю і не перастану любіць сваю дарагую Радзіму да скону дзён маіх, і калі любоў да Радзімы ёсць злачынства, калі любоў да свайго народа — злачынства, тады я — першы злачынца".

Але ён жыў і ствараў, жыў нібы распалаваны — у адным свеце было цела, якое хварэла, мерзла, крываточыла, ляжала колькі дзён запар у беспрытомнасці на голых нарах юрты-шпіталя ў Якуціі; у другім свеце была душа, душа малявала каханне і няздзейсненае шчасце...

Скажы, Божа, быць пракажоным і таленавітым, праклятым і святым аднachасова доля абраных і адзначаных табою?

Новік-Пяюн — паэт. І калі жыццё размаўляе з паэтамі на мове сімвалаў і прадчуванняў, то што так хацеў сказаць яму Ісус, што пяць разоў прыходзіў у снах? Сяргей Міхайлавіч дакладна памятае даты ягонага з'яўлення... Хрыстос-дзіцятка, Хрыстос у Вільні ля Вострай Брамы ў 1927-м, Маці Боская, твар Ісуса са знакамітай Турынскай плашчаніцы; потым, 16 лютага 1992-га, Хрыстос зноў з'явіўся ў сне: "...У яго быў смуглы твар, каштанавыя валасы, даўгі блакітны плашч спадаў мяккімі складкамі, ён быў увесь у светлым ззянні. Я прачнуўся...".



• Ссыльны № 417393, фельчар-лабарант Усць-Нерскай бальніцы. Якуція, 1953–1959 г. г.

Я падумала, што пра гэтае варта напісаць, каб паказаць Новіка-Пяюна не толькі як ахвяру нелітасцівага лёсу, драпежнікаў-людзей, найвялікшага пакутніка, а менавіта як абранніка гэтага ж лёсу, бо такія выпрабаванні наўрад ці выпалі б на долю слабага...

У пакоі — паўзмрок, гарыць настольная лямпа. Ціха... Ціха... Толькі за вокнамі з усяе моцы лупіць лістоту чэрвеньская залева. Вясна... Жыццё... Бэз...

Трымаю ў руках арыгінал невялікага апавядання Сяргея Міхайлавіча "Пракажоны". Гэта — затрыманы крык, "размова з самім сабою", дзённік. Звычайны вучнёўскі сшытак з пажаўцелымі старонкамі, выцвілай клеткай і атрамантам. Пазначана дата: 4.11.1953. Сяргей Міхайлавіч згадвае гісторыю напісання: "4-га лістапада 1953 года галоўны лекар Оймяконскай аб'яднанай бальніцы Уйманава Лідзія Мікалаеўна звярнулася да мяне:

— Сергей Михайлович! Составьте список на выборы в Верховный Совет СССР, только не включайте того, кто лишен права голоса! — пры гэтых словах яна тыцнула пальцам у мой бок. (Яна яўрэйка, а ў самой муж — вязень-немец). Я адказаў ёй: "Лишен права голоса только я один и поэтому писать списка не буду!". Яна абурылася і сказала: "Я пожалуюсь начальнику!". З суседняга кабінета выйшла лекар-неўрапатолаг Паўлава Ліна Андрыянаўна: "Сергей Михайлович! Зайдите в мой кабинет, отдыхайте!". І да Уйманавай: "Я сама доложу! Человек и так обижен судьбою, а вы издеваетесь над ним!". Пад гэтым уражаннем я напісаў тут жа "Пракажоны".

Гэта страшная моцная рэч, якая гаворыць куды больш за сухія факты і лічбы. З дазволу аўтара я цытую:

"Крывёю сэрца майго пішу гэтыя радкі. Ніхто, ніколі не даведаецца, колькі выпакутавала яно, колькі ран перанесла! І калі дасюль яшчэ б'ецца – не ведаю, якім цудам. Верце, не верце – як хочаце, мне – усё роўна! Душу не выплюнеш, не пакажаш.
Жыццё набліжаецца да скону. Ілгаць не думаю, ды і не варта. Лёс жорстка накпіў з мяне. Для сябе я не жыў – жыў для людзей. Для іх я не шкадаваў ні сіл, ні здароўя. І людзі, тыя людзі, якім я прысвяціў усё жыццё, якім аддаў усё, мяне прадалі – прадалі за грошы!



• Якуція, 1953 г.

РАЗМОВА З САМІМ САБОЮ

Зірнулі на цябе вялікія, ясныя, прамяністыя вочы, і ціхім святлом азарылася душа твая.
– О, мілыя, чароўныя вочы! Які дарагі майму сэрцу бляск ваш!..
Вар'ят! Хто даў табе права захапляцца імі!..
Ідыёт! Як ты можаш глядзець на іх, думаць пра іх, любавацца імі, марыць пра іх у бяссонныя ночы?
Забыў ты, што захапленне – не для цябе, радасць – не для цябе!
Ты – пракажоны!
Жыццё тваё прамінула без светлых дзён у барацьбе за шчасце людзей, за свабоду. А для цябе асабіста нічога не засталося: ні шчасця, ні раніцы, ні смеху, ні весялосці. Дык іх у цябе і не было. А кожнаму ж хочацца хоць крапельку шчасця, але і гэтай крапелькі ў цябе ніколі не было, няма і не будзе.
Ты – пракажоны!
Пракажоным цябе назвалі людзі, пракажоным і заставайся!
Прыслухоўвайся, калі кашчавай рукой пагрукае ў дзверы твая апошняя госця, і з ёю ты сыдзеш у той свет, дзе няма розніцы між добрымі і такімі, як ты, – пракажонымі.
Час гэты вельмі, вельмі хутка надыдзе. Сцісні зубы, ідзі апошняй сцяжынай так жа пакорліва, як прайшоў усё жыццё!
Не бойся!
Ніхто не пусціць горкае слязы над апошнім тваім прыстанкам, нікому ты не патрэбны,
нікчэмны пракажоны".

...Мне цяжка што-небудзь яшчэ казаць... Ціха... Блікі захаду кладуцца на падлогу. Навальніца прайшла. Мокры каштан новай лістотай клеіцца да шкла.
Вясна... Жыццё... Час...

Святлана МЯДЗВЕДЗЕВА.





• Усть-Нера, 1955 г.



• С. М. Новік-Пяюн з Зоськай Верас, 1977 г.



• Сяргей Міхайлавіч у сваёй "хаце", 80-я гады.



дастаткова не вычарпальная. У мяне больш прымітыўны падыход, класічна выяўленчы, я б сказаў, канкрэтовы.

М.В. — Гэта твой асноўны сур'ёзны занятак?

В.С. — Я ўвесь час лічыў, што асноўны мой занятак — кніга, і менавіта з-за гэтай сур'ёзнасці, трэба сказаць, поспехі тут дастаткова сумніцельныя. А да графікі я адносіўся як да адпачынку ці нават як да забавы, а вынікі атрымаліся больш сур'ёзнымі. Да такой працы нельга вельмі сур'ёзна адносіцца і пачынаць асэнсавана капацца... Я заўважыў па свайму вопыту, што тут жа настае правал. А калі не асабліва рвешся, дык у працэсе працы можа адбыцца нешта цікавае. Я ніколі не задумваюся, ці сапсую работу, раблю толькі для сябе, і яна аказваецца цікавейшай за іншыя. Хаця пакуль вынік не на такім узроўні, на якім хацелася б. Славалюбства падказвае нейкія падступы, але і банкруцяцца. Тры гады таму я аддаў у адно некалькі гатовых кніг — дагэтуль грошы нясуць. І хадзіць туды дарэмна.

М.В. — А колькі работ у тваёй наступнай кнізе?

В.С. — Дваццаць ілюстрацый. Там двухтомнік — па дзесяць ілюстрацый на кнігу, плюс вокладкі.

М.В. — Наколькі я ведаю, мастакам, якія займаюцца жывапісам, прасцей зарабляць на жыццё. Большасць з іх мае магчымасць прадаваць свае карціны за мяжу. А цябе ніколі не цягнула паспрабаваць здрадзіць графіцы ў камерцыйных мэтах? Гэта б вырашыла многія праблемы.

В.С. — Жывапіс сапраўды рэалізуецца лепей і болей карыстаецца попытам за мяжой. Але пераключацца на тое, што мае попыт, не хочацца. Мне цікава, і я буду рабіць тое, што мне цікава.

Жывапіс — рэч наркатычная. Магчыма перарастанне і адбудзецца, а можа і не... Не кожны графік можа стаць жывапісцам. Часам чалавек не

## Валерый Славук:

# "МНЕ ЦІКАВА, І Я БУДУ РАБІЦЬ ТОЕ, ШТО МНЕ ЦІКАВА"

*Неяк я паскардзіўся, што мае камерцыйныя справы ідуць вельмі дрэнна. Ён усміхнуўся і сказаў, што галоўнае — любіць сваю справу такой, якая яна ёсць — і ўсё зменіцца да лепшага. Я захацеў пагутарыць з ім больш і папрасіў вызначыць час, папярэдзіўшы, што напішу матэрыял. Сышліся на тым, што адмаўляць сябрам нельга, нават калі непрыязна ставішся да прэсы, а твой сябра — малады журналіст. Сустрэча адбылася ў майстэрні.*

Растлумачу толькі адну назву, якая будзе сустракацца ў інтэрв'ю. Сінеж — гэта дом творчасці мастакоў, які знаходзіцца прыблізна ў шасці-дзесяці кіламетрах ад Масквы па ленінградскай шашы. Вакол – возера і шматлікія дамы адпачынку.

І яшчэ аб адным. У Мінску зараз завяршае сваю працу выстава "Жывапіс – графіка 92", на якой экспануюцца работы вядучых маладых мастакоў Беларусі. Сярод іх ёсць і ягоная графіка – графіка Валерыя Славука.

Максім Вашкевіч: — Я ўсё ж прыйшоў і адразу ж хачу задаць пытанне: Чаму ты так не любіш нашага брата — журналіста?

Валерый Славук: — Чаму не люблю... Люблю... Люблю, але дзіўнай любоўю. Часам смешна чытаць альбо сумна неяк... Смешна, калі напісанае не адпавядае ісціне, сумна, калі адпавядае... Шчыра кажучы, я адчуваю сябе адхіленым ад усяго гэтага...

З тэлебачаннем я ўжо даўно разабраўся. Неяк паглядзеў перадачу — больш не жадаю. Па-першае, чуеш свой жахлівы і прыкры голас, па-другое, паводзіны нязграбныя: сядзіш, пацееш, перажываеш, забудзешся на ўсё, а дзеля чаго? Атрымліваецца абсалютна пустая перадача, якая выходзіць толькі таму, што стаіць у плане... Гэта не ад якогасьці вялікага самалюбства адбываецца, а проста калі цвяроза паглядзець — лепш не лезці на экран. Тым больш, што праблемы тэлемовы мяне неяк не казычуць. А перабудоўвацца? Часу і так мала засталося. Не хочацца яго марнаваць. Мова ў мяне, уласна кажучы, маляўнічая, яна і так зразумелая, па вялікаму рахунку, што я там яшчэ скажу? Гэта не ад какецтва. Цікава, калі штосьці сам зробіш, і тое не надоўга.

М.В. — Я прыводзіў сваіх сяброў на выставу. Твае работы ім спадабаліся. Але не зусім зразумела, чаму так шмат чортападобных істот на афортах. Цікава, гэта светаадчуванне ці штосьці іншае?

В.С. — Чорт яго ведае... Я не задаваў сабе гэткага пытання. Хочацца штосьці зрабіць — я раблю. Ужо без уліку таго, будзе гэта камусьці падабацца ці не. Магчыма, што ёсць перабор нейкі, але, відаць, пакуль не вычарпалася гэтая тэма... Аднойчы мне надакучыла, і я паспрабаваў нешта іншае... Але, так бы мовіць, гэта не тэма і не светаадчуванне. Ёсць такая банальная ісціна, — час дыктуе... А час сапраўды дзіўны, калі задумацца. Гэты перыяд вельмі цікавы гістарычна. Страшны перапом, разбурэнне старой сістэмы праходзіць жудасна балюча, гэта разліта ў атмасферы і, хочаш ці не, дыктуе тое, што ты робіш. Я не такі ўразлівы, каб быць настроеным, як сейсмограф, на працэсы, якія адбываюцца, гэтага таксама няма, але міжволі пачынаеш сковвацца ў нейкую змрочную канву. Аб чымсьці светлым, аб нечым цудоўным спяваць не даводзіцца.

М.В. — У Савіча там таксама невясёлыя карціны...

В.С. — Але яны там больш абстрактныя. Гэта ўжо, па сутнасці, вышэйшы пілатаж. Але я да яго і не імкнуся асабліва, у мяне маецца свая сфера, яны вядуць да тупіка. Магчыма, гэта найбольшая вышыня, як кажуць...

М.В. — А ці дасягальная гэтая найбольшая вышыня наогул?

В.С. — Мне здаецца, так, калі з гэтым прымірышся. Не хочацца з гэтым мірыцца, але, бывае, б'ешся як рыба аб лёд... Тут, дарэчы, уласныя пошукі не даюць ніякіх вынікаў. Магчыма, што гэта адбываецца ад развіцця этапамі, само па сабе — як у запраграмаванага чалавека: калі наканавана яму, мінае нейкі час — ён на новы ўзровень выходзіць, практычна незалежна ад таго, працаваў ён там рупліва ці не.

М.В. — Гэта значыць, ад намагання?

В.С. — Там. Хаця гэта таксама няпэўная рэч. Што такое намаганні? Для аднаго гэтыя намаганні здаюцца празмернымі, для другога — наогул нічога на значаць, увогуле гэтая тэма складаная. Паглыбляешся ў такія рэчы, якія словамі наогул немагчыма выказаць.

М.В. — А Сінеж?

В.С. — Сінеж... Я езджу туды ўжо 12 гадоў, кожны год на 2 месяцы. Там чароўная атмасфера, створаная многімі пакаленнямі мастакоў. Аб ёй можна гаварыць.

Сінеж існуе гадоў 30, і ўсе гэтыя гады там было вельмі бурнае жыццё, нягледзячы на гады застою. Туды прыязджалі мастакі з усяго Саюза, і вельмі шмат выдатных. Работа і зносіны стварылі нейкую аўру, якая дагэтуль не страчана. Калі прыязджаеш туды, адразу адчуваеш такі ўздым!.. У звычайным жыцці гэта цягнецца адно імгненне, часам я спрабую штучна выклікаць альбо працягнуць, а ў Сінежы такога няма, таму што ты адразу трапляеш у атмасферу, якая ахоплівае так, што нават пачынаеш меркаваць па-іншаму. У Мінску я часам нешта раблю ў расслабленым, несабраным стане, а там збіраешся міжволі. І туды едуць ужо актыўныя людзі. Звычайны чалавек туды не паедзе. Па-першае, ідзе "стрём", каб не ўдарыць тварам у гразь, па-другое, у канцы заезду ідзе прагляд работ, прыязджаюць людзі з Масквы, што таксама стымулюе імкненне скокнуць вышэй за звычайную планку, інакш туды проста не мае сэнсу ехаць... І такое адбываецца з любым мастаком, на якім бы ўзроўні ён ні знаходзіўся. І кожны, хто прыязджаў туды хаця б раз, калі не пераскочыў сваю адметку, дык ужо дакладна паспрабаваў гэта зрабіць. Там выкладваешся вельмі моцна — два месяцы беспярапыннай працы вельмі вымотваюць і ў гэты ж час разумееш, што гэта не дарэмна.

Што будзе далей — я не ведаю. Старая сістэма развалілася, зараз такія паездкі за мяне ніхто не аплаціць, а самому гэта вельмі дорага — рублёў дзвесце ў дзень, калі не больш.

М.В. — А колькі работ ты звычайна робіш за паездку?

В.С. — У апошнія два гады я не імкнуўся спяшацца, важна было рабіць тое, што я хачу. У сярэднім атрымлівалася работы па чатыры.

М.В. — А ў Беларусі такіх месцаў няма?

В.С. — Па-мойму, наогул такога месца нідзе больш няма. Калі б не прыніжальнае становішча з грашыма... Працы ж амаль не купляюць, мецэнатаў-спонсараў у нас пакуль няма, а выдавецтвы

ўсведамляе, што марнуе час. Ды гэта і не проста, таму што адразу ж на паверхню ўсплывае самалюбства, якое не хоча прызнавацца ў памылцы... Але паспрабаваць можна. Тым больш, што я пасля інстытута ніводнага разу жывапісам не займаўся.

М.В. — А ці змяніліся адносіны паміж мастакамі пры пераходзе да рынку?

В.С. — Змяніліся, канешне ж. Адбылося не столькі нейкае адчужэнне, колькі раз'яднанне.

Раней усё цэментавалася агульнымі мэтамі. Тыя ж выставы... Тады ўсё было цікава, важна, патрэбна... Канешне, і сёння ёсць цікавыя і важныя выставы, але ўжо не тая ступень цікаўнасці і важнасці. Зусім па-іншаму. Не тое, каб я аб гэтым шкадаваў, гэта хутчэй натуральна. Перад кожным паўсталі новыя праблемы, і кожны выбірае сам, як іх вырашаць.

За першую выставу мы ўсе атрымалі па вымове, таму што не падпарадкаваліся ідыёцкім патрабаванням нашых босаў, якія любілі камандаваць і рашаць, што трэба зняць, а што наогул непатрэбнае. Потым, канешне, гэтыя вымовы знялі, але факт застаўся неабходным этапам ломкі гэтай дэбільнай сістэмы.

Гэта ўсё этапы: вымова, зняцце, другая выстава, на якой ужо амаль ніхто не камандаваў, апошняя выстава, на якую кожны што захацеў, тое і прынёс.

Зараз і час зусім іншы — у Селешчука і Савіча выставы за мяжой, а калі і ёсць нейкія праблемы, то яны ўжо вырашальныя. Ды і ў мяне ёсць прапанова з ФРГ з гэтай выставай — да ліпеня вырашыцца канчаткова, што і як, я пакуль дакладна не ведаю... Калі нічога не вырашыцца з праблемай выезду, то з нашым безграшоўем... Хаця, здаецца, гэта яны бяруць на сябе...

М.В. — А ў цябе ёсць які-небудзь іншы занятак, акрамя творчасці?

В.С. — Хобі? Не, час займае праца... Можа толькі кнігі, але гэта, па-мойму, як курэнне. У вёску можна паехаць, але гэта не хобі... Не, хобі няма...

М.В. — А калі б было больш часу?

В.С. — Я не скарыстаў бы яго па-іншаму. Мяне задавальняе той склад жыцця, які я вяду, мая праца... Майстэрня — дом, дом — майстэрня... Мяне проста не цікавіць штосьці іншае.

М.В. — А гэта на сцяне не твае карціны вісяць?

В.С. — Не, гэта проста падарункі з Масквы. Гэты мастак — мой вельмі добры, таварыш, цікавы чалавек, сапраўдны мастак.

М.В. — Ты гаворыш: "сапраўдны мастак". А што такое сапраўдны мастак?

В.С. — Па-першае, гэта бескарыслівасць. Па-другое, арганічная любоў і адданасць сваёй справе, незалежна ад нейкіх матэрыяльных вынікаў. Карацей кажучы, чалавек, які стаіць на сваім месцы і займаецца сваёй справай, і любіць яе такой, якая яна ёсць.

Падрыхтаваў
Максім ВАШКЕВІЧ.

*Паміж намі, жанчынамі*

# Мілая, каханая, адзіная -

яна так часта чула гэтыя словы, што ні на імгненне не сумнявалася ў іх шчырасці...

Набіраю код Бабруйска і нумар, які ўспомніла дзякуючы запісной кніжцы. На тым канцы трубку здымае мужчына. Некалькі секунд збіраюся з думкамі і...

— Добры дзень. Сяргея Пятровіча можна?

— Памыліліся. Тут такія не жывуць.

— А Ларысу Іванаўну?

— Яна зараз прыйдзе. Пераваніце.

Трэба ж! "Такія" там не жывуць... Дарэчы, ці не я сама прадказвала Ларысе больш празаічны канец іхніх з Сяргеем адносін? Тады гэта ўсё толькі пачыналася, але падзеі развіваліся так хутка, а Ларыса (імёны галоўных герояў артыкула зменены. — Н.С.) была настроена так рашуча, што развязка ў "рамане" збіралася наступіць адначасова з кульмінацыяй. Кульмінацыя, апагей, вышэйшая кропка іх кахання ўжо мела месца. "Любіць больш, любіць мацней немагчыма", — сказала тады Ларыса. Развязка пагражала адбыцца ў сям'і Сяргея Пятровіча, які да таго часу паспеў абзавесціся не толькі жонкай Верай Мікалаеўнай, але і двума сынамі-пагодкамі.

...Лёс звёў нас у Гомелі. Прычым, дзіўна неяк звёў, не па-добраму. І, відаць, засталася б у душы прыкрасць ад таго знаёмства, каб сама Ларыса не выправіла сваю памылку. Мяне пасялілі ў выдатным двухмесным нумары з відам на вясенні, заліты сонцам горад. Суседка адсутнічала, але па неахайна раскіданых прыгожых рэчах можна было зрабіць некаторыя вывады адносна яе звычак... Паставіўшы тапачкі пад ложак, а сумку ў шафу, я адправілася ў горад па сваіх справах. Вярнулася вечарам, стомленая і галодная, дайшла да нумара і аслупянела: перад дзвярамі стаяла мая нераспакаваная сумка, а зверху — акуратна — пакаёвыя тапачкі. Я пастукала — ціха, ніякіх прыкмет жыцця... На дапамогу прыйшла дзяжурная па паверху, растлумачыўшы, што адміністратар памылілася, мяне "няправільна" пасялілі. І зараз жа прапанавала ключ ад іншага пакоя. "Дазвольце, а хто ж выставіў мае рэчы?" — не супакойвалася я, абураная гэткім самаўпраўствам. "Ды, відаць, ваша суседка пастаралася, — зашаптала дзяжурная, азіраючыся праз плячо. — Гэта нас тут ніхто не заўважае, а мы — усё і ўсіх. Не першы раз яна прыязджае. Раней усё "люксы" займала, зараз, відаць, і кавалер не дапамог — абласная канферэнцыя ў нас. Вось у двухмесны і засялілі. А вас да яе — выпадкова. Памыліліся ці што...".

Ясна, падумала я. Нейкі партыйны ці гаспадарчы "бос" уладкоўвае такім чынам сваё асабістае жыццё. Утульны "нумарок", шампанскае ў гасцінічных шклянках, немудрагелістая "закусь" у выглядзе шакаладных цукерак і тоненькіх скрылёчкаў "белавежскай" і дарагія вясновыя ружы ў сціплым графіне... Не хацелася перашкаджаць чужому шчасцю, хай нават крадзенаму. Уздыхнуўшы, нахілілася за сумкай. І нечакана пачула: "Дык вось вы якая... А я вас інакш уяўляла. Гэта з-за тапачак. Такія звычайна бабулькі носяць ці старыя дзеўкі. Вы яўна не тое і не другое. Заходзьце". І не даўшы мне апамятацца, Ларыса падхапіла маю "камандзіровачную" сумку і занесла ў пакой. "Сярдуеце? Не сярдуйце... Я падумала: падселяць якую-небудзь шкодную бабуленцыю-інспектарку, будзе ныць па вечарах, што позна вяртаюся, спаць не даю. Вось і перастрахавалася. Дырэктар гасцініцы — мой прыяцель, нас адзін добры чалавек пазнаёміў...".

Я глядзела на яе і адчувала, як хутка знікаюць некуды ўсе непрыемныя адчуванні. Ці ж можна доўга злавацца на прыгожую жанчыну? А Ларыса была не проста прыгожай. Яе прагажосць жыла ў кожнай рысачцы, у кожным руху. Думаю, калі б яна захацела стаць якой-небудзь "міс" або "мадэллю", дык дабілася б гэтага без асаблівых цяжкасцей...

Самае смешнае, што потым яна прапанавала мне шампанскага ("засталося ад вячэры"). Пасля гэтага мы, натуральна, разгаварыліся. Дакладней, гаварыла ў асноўным яна, я ж слухала, зрэдку ўстаўляючы малазначныя рэплікі. Яе шчырасць зусім не здзіўляла. У жыцці такое здараецца часта: саромеемся блізкага чалавека, не рашаемся выгаварыцца да канца, а перад першым сустрэчным раскрываем душу. Бог яго ведае, чаму. Магчыма, блізкія не здольны на аб'ектыўнасць. А чужыя хоць выслухаюць без істэрык, яшчэ і парадай разумнай дапамогуць.

...Іх раман пачаўся банальна. Ён — Сяргей Пятровіч Макашоў — начальнік аддзела буйнога прадпрыемства, яна — звычайны эканаміст. Два гады працавалі побач, а пазнаёміліся — горш не прыдумаеш — у звычайнай сталоўцы. Сяргей, у чарговы раз пасварыўшыся з жонкай, дадому абедаць не паехаў. Ларысе не спадабаўся выбраны спачатку столік ля акна, і яна перасела бліжэй да раздачы. Вось і ўсё. Яны апынуліся побач. Некалькіх секунд хапіла ёй на тое, каб заўважыць і не вельмі старанна адпрасаваную кашулю, і гальштук "не ў тон", і сумныя карыя вочы, і высокі лоб з зачасанымі назад цудоўнымі каштанавымі валасамі... Ён, мяльком глянуўшы на Ларысу, уткнуўся ў талерку. Ларыса, якая прывыкла заваёўваць з першага погляду, пра сябе абурылася: хоць бы камплімент адпусціў для прыліку!.. Сяргей Пятровіч, нібыта пачуўшы гэтыя думкі, адставіў убок міскі-лыжкі і задумліва і сумна паглядзеў на Ларысу: "Няўжо такія, як вы, яшчэ бываюць?". "А іменна?" — яна напружана чакала працягу. Ён схамянуўся і пачырванеў: "Напэўна, нешта не тое кажу... Проста ўявіў вас на якім-небудзь балі ў доўгай сукенцы... Прабачце, але гэта ж недарэчнасць: вы — тут, зараз...".

"Усё, — падумала Ларыса, — ён будзе мой". Тады ў слова "мой" яна не ўкладвала асаблівага сэнсу. "Мой" на адзін дзень, на месяц, на год... Якая розніца? Нешта ўскалыхнулася ў душы, лёд скрануўся... "Ён павінен быў мяне пакахаць. Няшчасны, адзінокі, лёгка ранімы... Я гэта адразу зразумела", — сказала яна мне, запальваючы ўжо не ведаю якую па ліку цыгарэту...

...Ён пачаў падвозіць яе дадому на сваёй машыне. Падарункаў асабліва ніякіх не рабіў, але кветкі купляў часта. Разам "на людзі" яны не паказваліся. "Бабруйск — вялікая вёска, усе адзін аднаго ведаюць, тым больш яго". Рэстараны і кафэ таксама былі для іх зачынены... Тое, што павінна было паміж імі здарыцца рана ці позна, адбылося ў машыне за горадам. Сядзелі, размаўлялі, і раптам ён рэзка адкінуў Ларысіна сядзенне... Нічога падобнага яна да гэтага не зведвала, хоць і адносіла сябе да вопытных жанчын. Сяргей цалаваў яе ўсю, ад пятак да макушкі, і паўтараў: мілая, любая, адзіная мая...

Яны жылі як у сне, ад сустрэчы да сустрэчы. І ён, і яна нібыта крыху звар'яцелі (той, хто кахаў, мяне зразумее). Іх вынаходлівасць (як сустрэцца, каб ніхто нічога не западозрыў) дасягнула дасканаласці. Ён ехаў "у камандзіроўку", і клапатлівая жонка Вера Мікалаеўна складвала ў пакет дамашнія піражкі, налівала ў тэрмас рамонкавы адвар (ад усялякіх запаленняў). Ларыса адпраўлялася "ў госці" да інстытуцкай сяброўкі або таксама ездзіла "па рабоце". Яны здымалі нумар ці два ў якой-небудзь гасцініцы і без усялякіх перашкод дарылі адзін аднаму сваё каханне... У "перапынках", змучаныя страсцю, галодныя, шчаслівыя, елі вельмі смачныя Верыны піражкі. (Сяргей хваліў жонку за кулінарны талент і жартаваў: у наступны раз папрашу не з рысам, а з капустай...). А потым будавалі планы на будучыню, якая пакуль была не вельмі ясная, але адно без аднаго не ўяўлялася. Натуральна, кватэра Сяргея Пятровіча і ўсё ў ёй заставалася Веры і дзецям. Машына таксама. Мелася яшчэ і дача — трохпакаёвы домік недалёка ад горада. Яна таксама пераходзіла да Веры ў якасці кампенсацыі. Будаўніцтва дачы, праўда, было не завершана. Заставаліся апрацоўчыя работы і сёе-тое з драбязы. Толькі пасля гэтага, забяспечыўшы сям'ю ўсім неабходным, Сяргей збіраўся праінфармаваць жонку аб сапраўдным становішчы рэчаў.

Ларыса згаджалася на ўсё. Ёй не патрэбныя былі дача і машына, ёй патрэбен быў толькі ён, уважлівы, бескарыслівы і пяшчотны. Грошы таксама неяк не вельмі хвалявалі. Сяргей сказаў, што збіраецца аддаваць Веры не трыццаць належных па закону працэнтаў, а палову, пакуль хлопчыкі не падрастуць. "Ну вядома", — згадзілася Ларыса і пачала чакаць, шчаслівая нават ад такой магчымасці. Але шчасце, тым больш крадзенае, не вечнае. Гром, як заўсёды ў падобных выпадках, грымнуў нечакана. Аднойчы вечарам Ларысе пазваніла Вера Мікалаеўна і без доўгіх прадмоў дакладна сфармулявала сваю думку: "Я табе яго не аддам — не спадзявайся. Хутчэй сама на сябе рукі накладу".

Ларыса не спалохалася. Яна была ўпэўнена, што кожны чалавек мае права змагацца за сваё шчасце. А перамагае мацнейшы. Ларысіна шчасце заключалася ў Сяргею. Яна зразумела, што час чакання скончыўся, пара пераходзіць у наступленне. Іх спатканні сталі больш рэдкімі, але больш страснымі, нават з нейкім надрывам. Кожны раз Макашоў паводзіў сябе як чалавек, якому на гэтым свеце адпушчаны адзін дзень жыцця. Нават плакаў, стоячы перад Ларысай на каленях і прыціскаючыся галавой да яе ног. Умаляў пачакаць, не падганяць яго. Яна быццам згаджалася, і тым не менш не магла зразумець: ну што яго там трымае? Жонка не вельмі маладая і не надта прывабная — ніякага шарму. У сэнсе сексу ў іх — Сяргей сам прызнаўся — усё аднастайна і нецікава. Характар — таксама не падарунак. Успыліць, нагаворыць лішняга, потым тыдзень маўчыць... Не тое што Ларыса. О! Яна ведае, як трэба любіць і ўтрымліваць мужчын...

...Узяўшы адпачынак, Вера з дзецьмі паехала да маці ў вёску, пакінуўшы Макашова распараджацца кватэрай як уздумаецца. Ларыса была ўпэўнена, што ў першы ж вечар Сяргей запросіць яе да сябе. І памылілася. Але і тут знайшла яму апраўданне: суседзі маглі ўбачыць і паведаміць "каму трэба".

Сустрэліся, як заўсёды, у машыне, паехалі на дачу... Раніцай, шчаслівы і задаволены, ён паабяцаў паспяшацца з заканчэннем будаўніцтва і, адпаведна, разводам...

— І даўно гэта было? — спытала я ў Ларысы.

— Амаль год назад, мінулым летам.

— Што, будаўніцтва зацягнулася?

Яна сумна засмяялася:

— Ну, у некаторым сэнсе. З дачай усё нармальна, але цяпер ён будуе ім гараж, каб было куды ставіць машыну. Сустракаемся па-ранейшаму ў "камандзіроўках", вось у Гомель зачасцілі: дырэктар гасцініцы — Сярожаў школьны таварыш. Па праўдзе кажучы, надакучылі гасцініцы. Стамілася ад іх. Але Сярожу кахаю па-ранейшаму. І чакаю. Рана ці позна ён дабудуе гэты праклятыя гараж. І стане маім назаўсёды.

Што я магла ёй сказаць? Што пасля гаража Сяргею Пятровічу тэрмінова можа спатрэбіцца лазня? Ці — уласны басейн? Ларыса мяне ўсё роўна не зразумела б. Усе закаханыя — эгаісты. Ім здаецца, што ніхто ў гісторыі чалавецтва не любіў так, як яны. І ўсе крытычныя заўвагі ў свой адрас яны ўспрымаюць як першую прыкмету зайздрасці.

Я прамаўчала. Тады мы праседзелі амаль да поўначы. А яшчэ пазней у нумары раздаўся тэлефонны званок. "Гэта мне, — сказала Ларыса і зняла трубку. — Безумоўна. Вельмі. Праз пяць хвілін буду. Чакай". Яна пажадала мне добрай ночы і пайшла, папярэдзіўшы, што вернецца раніцай. Але на наступны дзень мы так і не ўбачыліся. Вечарам дзяжурная па паверсе перадала мне яе дамашні тэлефон: "Вас прасілі пазваніць...".

Столькі год мінула... Цікава, кім даводзіцца Ларысе мужчына, што адказваў мне па тэлефоне? Вядома адно: гэта не С.П. У той гісторыі можна ставіць кропку. Ды і ці магло ў жыцці атрымацца інакш?

А можа, ты ўсё яшчэ чакаеш, Ларыса?

Наталля СТРАЛКОВА.



# ЗЛАЧЫНЦЫ... У ПАГОНАХ

*Галоўныя дзеючыя асобы гэтага матэрыяла — людзі ў пагонах, тыя, да каго спрадвеку адносіліся з павагай, і хто свядома дыскрэдытуе не толькі свой мундзір, але і форму таварышаў.*

Звернемся да аператыўных зводак сталічнага Упраўлення ўнутраных спраў за бягучы год.

26 студзеня ваеннаслужачы тэрміновай службы сяржант П. у п'яным выглядзе ўгнаў са сталічнага аўтавакзала "Усходні" рэйсавы "Ікарус". Можна толькі здагадвацца, чым магла скончыцца гэтая аўтапрагулка для самога ліхача і многіх пешаходаў, калі б не работнікі міліцыі. Спыніць "шалёны аўтобус" дапамагла толькі куля, дасланая міліцыянерам у кола.

2 лютага ваеннаслужачы тэрміновай службы Я. угнаў аўтамашыну "Масквіч" з вуліцы Народнай.

Гэта далёка не адзінкавыя выпадкі крадзяжу аўтатранспарту салдатамі. Мяркуючы па ўсяму, некаторым з хлопцаў у "хакі" падабаецца карыстацца не сваёй, а першай стрэчнай аўтамашынай.

Значная частка часова звольненых і "самазвольненых" байцоў аддае перавагу крадзяжам і разбойным нападам на тых, каго па свайму статусу салдат павінен абараняць.

25 лютага ваеннаслужачыя тэрміновай службы С. і Н. адабралі ў жанчыны, якая ішла па вуліцы, сумку. Цяжка ўявіць, наколькі «ашчаслівілі» рабаўнікоў кавалак мяса і жаночая кашуля (менавіта гэта і знаходзілася ў сумцы жанчыны)...

11 красавіка ў прыбіральні аўтавакзала "Цэнтральны" ваеннаслужачы С. сумесна з цывільным сябрам, пагражаючы фізічнай расправай, знялі гадзіннік і адабралі грошы ў мінчаніна Ч.

Але, зрэшты, усіх "пераплюнуў" курсант Мінскага ваенна-педагагічнага вучылішча Р. У сярэдзіне лютага будучы афіцэр (у верагоднасці апошняга асабіста я глыбока сумняваюся) сарваў з галавы прахожага нутрыевую шапку. У момант затрымання патрульным нарадам Першамайскага РАУС "педагог", як кажуць, лыка не вязаў...

Дарэчы, гаворачы пра "галоўных герояў" пералічаных здарэнняў, неабходна адзначыць, што не ўсе яны служылі або служаць на тэрыторыі Беларусі. Шмат сярод іх "залётных" — з Масквы, Казахстана, Украіны і іншых цяпер суверэнных рэспублік. Але, згадзіцеся, мінскаму міліцыянеру ад гэтага зусім не лягчэй. Высвятленне, адкуль наогул з'явіўся ў сталіцы Беларусі той, хто ў гэты час павінен сядзець дзе-небудзь у забайкальскім дазоры, забірае шмат сіл і сродкаў. Навяздзенне шматлікіх даведак пры цяперашняй суверэнізацыі былых рэспублік СССР надзвычай ускладняецца. Да прыкладу, устойлівай сувязі з рэспублікамі Закаўказзя наогул няма.




Толькі ў гэтым годзе ў горадзе зафіксавана больш за 25 злачынстваў і здарэнняў з удзелам ваеннаслужачых. Але для таго, каб не заканчваць гэты матэрыял на такой сумнай ноце, хачу прыгадаць яшчэ адзін нядаўні і вельмі павучальны прыклад.

Гэтая гісторыя адбылася 14 красавіка ў новым гарадскім мікрараёне "Уручча". Дакладней — у нядаўна пабудаванай паліклініцы па вуліцы Нікіфарава.

Тамтэйшая адміністрацыя папрасіла камандаванне адной з вайсковых частак дапамагчы. Армейскія камандзіры не адмовілі.

У час абедзеннага адпачынку медсястра паліклінікі прынесла памочнікам штосьці "замарыць чарвячка" і, пакінуўшы сумку, пайшла па сваіх справах. Пажавалі хлопцы медсястрынскі паёк і таксама адправіліся па месцах. А адзін з салдат выпадкова ўбачыў у холе паліклінікі нецвярозага незнаёмца, не надаўшы гэтаму спачатку ніякага значэння. Праз некалькі хвілін вярнулася медсястра і — не знайшла сваёй сумкі. Зніклі і дакументы з грашыма.

Па просьбе пацярпеўшай два танкісты — сяржанты Андрэй Быстроў і Уладзімір Самойлаў кінуліся шукаць незнаёмца. Праз чатыры гадзіны (!) ім удалося затрымаць злачынцу з выкрадзенымі рэчамі.

С. Рачыла,
УУС Мінгарвыканкама.

## АФІЦЫЙНЫ АДКАЗ

У сувязі з публікацыяй у вашай газеце артыкула "Дзетсадаўская справа" ("ЧЗ", № 19) упраўленнем унутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама праведзена дадатковая праверка выкладзеных у ім фактаў.

Сапраўды, у снежні 1991 года крымінальная справа № 900 (па факту прычынення цялесных пашкоджанняў малалетняй Мельнікавай Ірыне) па ініцыятыве УУС была накіравана пракурору Першамайскага раёна гор.Бабруйска, які адмяніў пастанову аб яе спыненні, прызнаўшы неабходнасць правядзення дадатковага следства.

Следчы Першамайскага РАУС Лагуноў А.В., які займаўся расследаваннем гэтай справы, апытаў некалькі сведкаў з ліку дзяцей, якія знаходзіліся ў памяшканні групы пад час здарэння, і якія растлумачылі, што Ірына ўпала сама.

Пасля гэтага ён 13 студзеня 1992 года спыніў крымінальную справу ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях выхавальніка Барысёнак Т.П. складу злачынства, але паведамлення аб прынятым рашэнні маці пацярпеўшай не накіраваў. З гэтай нагоды супрацоўнікам УУС пад час асабістай сустрэчы з Мельнікавай А.А. прынесены прабачэнні.

У сувязі з тым, што апошняя заявіла хадайніцтва аб допыце шэрагу іншых асоб, крымінальная справа намі паўторна накіравана пракурору Першамайскага раёна для адмены прынятага па ёй рашэння.

Аб выніках дадатковага следства рэдакцыя будзе інфармавана.

Адказ заяўніцы дадзены.

В.а.начальніка УУС
В.С.Трыпуцень.

## МАФІЯ І К°

**Для большасці абывацеляў слова "кааператар" асацыіруецца з паняццем "працвітаючы бізнесмен". Карацей кажучы, грошы рыдлёўкай грабе. І наўрад ці хто здагадваецца, наколькі гэтыя меркаванні бываюць далёкімі ад ісціны...**

26 мая ў Барысаве быў абрабаваны дом па вуліцы Будаўнікоў. Выкрадзены залаты ланцужок, пярсцёнак, 70 пачкаў цыгарэт "Фенікс". Па падазрэнню затрыманы рабочы кааператыва "Астра". У гэтым жа горадзе два рабаўнікі ля кінатэатра "Кастрычнік" спрабавалі сілком адняць грошы ў вадзіцеля аднаго з прадпрыемстваў горада. Не атрымалася. Адзін з затрыманых — рабочы кааператыва.

Опергрупа Салігорскага ГРАУС увечары прывезла з вуліцы Леніна рабочага малога прадпрыемства з двума сябрамі. Пачынаючыя рэкеціры вымагалі там у мясцовага жыхара (беспрацоўнага!) 140 тысяч рублёў або тысячу даляраў плюс дзве тоны медзі. Абодва бакі доўгі час не маглі знайсці "кансенсус", чым і прыцягнулі ўвагу міліцыі. Тут жа ў Барысаве два невядомыя ўвайшлі ў кватэру кантралёра хімфармазавода. Збілі, адабралі залаты ланцужок. Міліцыя ўстанавіла, што адзін з іх беспрацоўны, другі — прадстаўнік кааператыва "Свіцязь". Можа, такім чынам хацеў зрабіць рэкламу сваёй фірме?

Начальнік следчага аддзела УУС Мінаблвыканкама Л.Жаўняк разам са сваім намеснікам А.Казачком расследуюць зараз шматэпізодную крымінальную справу. Група з 23 чалавек падазраецца ў ажыццяўленні 38 розных злачынстваў: крадзеж 30 мяхоў цукру ў саўгасе "Стара-Барысаў", крадзяжы з дач, кватэр, аўтамабіляў і шмат іншага, аж да прымусу сведкаў і пацярпеўшых да лжэсведчанняў. Хто фігуруе ў гэтай бандзе? Чатырнаццаць раней судзімых "ударнікаў прадпрымальніцкай працы" кааператываў "Высотнік", "Спадарожнік", "Старс", малога прадпрыемства "Эўрыка". У Мінскім абласным судзе пачалося слуханне дзевяцітомнай крымінальнай справы. Абвінавачваецца 11 чалавек за жаданне "радыкальна" вырашыць праблему дэфіцыту запчастак. Яны проста кралі машыны, каб потым у прыватных аўтамайстэрнях дапамагаць з рамонтам іншым аўтапакутнікам. Ці нават тым няшчасным, у якіх яны кралі "Жыгулі" і "Масквічы".

І сваім братам-кааператарам не даюць спаць спакойна. Так, 29 мая ў Беразіно на вуліцы Хонінава опергрупа мясцовага райаддзела затрымала на месцы злачынства рабочага кааператыва, вадзіцеля, трох нідзе не працуючых, армейскага афіцэра і двух студэнтаў інстытута фізкультуры. Аматары экспрэс-узбагачэння вымагалі ў мінчаніна, старшыні сумеснага малога прадпрыемства "Дыялог" дзесяць тысяч рублёў. Мала? Гэта з якога боку паглядзець. Большасць жа нашых суайчыннікаў з дзяржсектара перабіваецца ад аванса да палучкі. А нуварышы, якія рызыкнулі ўступіць у гільдыю кааператараў, імкнуцца зарабіць больш "агульнасярэдняга". Не ўсім, праўда, удаецца. Але выпрацоўваюць імідж паспяховасці: шчодрыя чаявыя, інамаркі і раскіданыя дома па кутах слоікі з-пад піва і пачкі імпартных цыгарэт. Між тым бізнесмен кожны свой рубель пускае ў абарот, прымушае працаваць. Толькі дурні складаюць грошы ў панчоху альбо пускаюць імі пыл у вочы.

М. Фядотаў.

У бюро дзяжурыў
П.Сіманаў.

# Ваш выхад, спадарыня!



-- Спадарыня, вы сёння цудоўна выглядаеце.

-- Дзякую, для мяне гэта норма.

Магчыма, крыху ўтрыравана, але прыкладна так, на думку майстра міжнароднага класа па дэкаратыўнай касметыцы Ларысы Васільеўны Лабуцінай, павінна быць у жыцці кожнай жанчыны. Прыгажосць -- гэта норма. І радасць. Час, які вы аднімаеце ў сям'і і аддаяце сабе, абарочваецца цудоўным настроем і вялікім запасам энергіі.

Не ўздыхайце: "Не хапае часу". І не супакойвайцеся на гэтым. Пасля цяжкага дня прысвяціце сабе дваццаць хвілін. Адпачніце хвілін пяць, потым прыміце асвяжальны душ, змыйце пыл грамадскага транспарту, скіньце праблемы працоўнага дня, раздражнёнасць, якая накапілася, пакуль вы бегалі з цяжкімі сумкамі па магазінах. Цяпер паляжыце некалькі хвілін, расслабцеся і думайце толькі аб прыемным. Вам лёгка, у вас добры настрой? Цудоўна!

Асвяжыце скуру крэмам, зрабіце маску на твар. Толькі не ўсплёсквайце рукамі: "Дзе гэта бачна: вазьміце лыжку мёду, змяшайце з жаўтком яйца. Гэта ў наш час?" Не бярыце, не змешвайце. Але і не вылівайце бульбяны адвар, кіпень, якім абдалі капусны качан, памыйце ім твар. Гэта ж усё -- вітаміны. Вы рыхтуеце абед? Вазьміце ад усяго па кропельцы, і ў вас гатовыя маскі. Выкарыстоўвайце ўсё, што ёсць пад рукамі. Жаданне плюс фантазія зробяць сваю справу.

І не кажыце, што не ўмееце маляваць, а таму не зможаце ўпрыгожыць свой твар. Зможаце. Не ўсе краўцы вялікія, але кашулю сабе пашые кожны. Толькі паляпшайце свой густ, адукоўвайце вока, глядзіце вакол: на мора, неба, кветкі. А крылы матылькоў наогул гатовы малюнак макіяжа. Пазнавайце законы спалучэння колераў.

А потым выбірайце з вялікай колькасці ідэй, якія прапануюць вам мадэльеры. І вас будуць не толькі сустракаць па адзенню, але і праводзіць па ім, бо ваш стыль -- выбар вашага розуму.

Ці не праўда, пераканаўча? Адразу захацелася адчуць сябе прыгожымі. Тады -- за справу, і не адкладваючы. Пад рубрыкай "Магія прыгажосці" адкрываюцца завочныя курсы дэкаратыўнай касметыкі, весці якія будзе Ларыса Васільеўна ЛАБУЦІНА. Сёння -- урок першы.

*Магія прыгажосці*

## Касметыка ў... каструлі

Запавет Гіпакрата для медыкаў "не нашкодзь" у роўнай ступені адносіцца да касметолагаў.

Калі жанчына знаходзіць адгаворкі, каб не выконваць складаныя працэдуры, але прывыкла траціць час на ўмыванне, то трэба рабіць гэта граматна.

Ні ў якім разе не змывайце касметыку вадой з мылам. Касметычнае ўмыванне складаецца з двух этапаў.

ПЕРШЫ ЭТАП. Неабходна "растапіць" касметыку. Для гэтага нанясіце любую тлустую аснову — пажыўны крэм, алей, растоплены ўнутраны тлушч (смалец), касметычнае малачко, затым змочаным у настоі траў або проста пад гарачай вадой ватным тампонам пратрыце твар. Выцірайце касметыку абавязкова не сухім тампонам, бо толькі тлушч растопіць тлушч (памады, туш і г.д.).

ДРУГІ ЭТАП — само ўмыванне. Умыцца можаце кашыцай з молатага геркулеса (геркулес заліце кіпнем) або размочаным у вадзе мякішам чэрствага хлеба. А то прыгатуйце касметычны "маянэз": жаўток разатрыце з лыжкай алею, размяшайце са сталодзяліць на два--тры разы. Умывацца можна і вадой, напалову разведзенай малаком. Пасля нанясіце пажыўны крэм.

Верхні рагавы слой скўры — адмерлыя клеткі эпітэлію. Іх неабходна выдаляць своечасова, тады ваша скура набудзе эластычнасць, пругкасць. Калі вы не маеце патрэбы ў гігіенічнай чыстцы твару ва ўмовах касметычнага кабінета, то займайцеся гэтым дома. Пры сухой і нармальнай скуры чысціць трэба раз у месяц, пры тлустай — пажадана раз у тыдзень.

Спачатку вымыйце твар, як вы ўжо ўмееце. Потым зрабіце паравую ванну: пяць—сем хвілін над зборам любых траў або проста над гарачай вадой. Распараную скуру прамасіруйце мяккай губкай з наступным саставам: пена крэма для галення або дзіцячага мыла з соллю і содай на кончыку нажа. Асабліва інтэнсіўна масіруйце цэнтр твара: лоб, крылы носа, падбародак. Якраз у гэтых месцах намнажаюцца вугры. Толькі вельмі акуратна абыходзьце вобласць вока.

Пасля масажу змыйце ўсё вялікай колькасцю халоднай вады, затым нанясіце на твар загадзя згатаваную па ўсіх правілах кулінарыі кашу з маслам на малацэ з чаго хочаце: з геркулесу, молатага рысу ці пярлоўкі, або бульбяное пюрэ. Накрыйце твар маскай з поліэтылену (у поліэтыленавай плёнцы выражце дзіркі для вачэй, носа і рота), зверху яшчэ ручнік і паляжыце дваццаць хвілін. Кампрэс спрыяе глыбокаму праграванню скуры.

Маску змывайце халаднаватай вадой, яшчэ лепш — халоднай. Вельмі карысна праціраць твар кубікамі лёду, якія рыхтуюцца з адвару траў: зверабоя, чабору, ліпы, рамонку. Добра рабіць гэта штодзённа, замест умывання.

На заканчэнне нанясіце крэм, якім вы карыстаецеся. Асабліва старанна "падсілкоўвайце" скуру павек і пад вачамі, бо тут яна самая тонкая і заўсёды сухая.

Такую ж працэдуру рабіце, калі ў вас адказны дзень, урачысты вечар або проста цікавая сустрэча.

Жанна Пацеенак.

## КАРЭКЦЫЯ ГРЫМАМ

### Шырокі твар

Трэба выкарыстоўваць ружовую пудру або румяны на два тоны цямнейшыя за натуральны колер скуры. Накладваць пудру і румяны пачынаюць ад скул да скроняў і ўніз да падбародка пад вострым вуглом. Твар адразу ж будзе здавацца больш вузкім і выразным.

### Шырока расстаўленыя вочы

Цені цёмнага колеру трэба наносіць у накірунку ад унутранага куточка вока да вонкавага. Пачынаць ля пераносся і весці лінію да вонкавага краю, паступова пераходзячы да больш мяккіх таноў. Лінію броваў падоўжыць да носа, але ледзь прыкметна, лепш мяккім алоўкам (які можна расцерці). Абводзячы контуры вока, пачынаць з унутранага куточка і даводзіць лінію да канца.

### Шырокі нос

Каб нос здаваўся вузейшым, на бакавыя сценкі і крылы носа наносяць цёмную пудру, а пасярод ад пераносся да кончыка — светлую. Пераход ад аднаго тону да другога павінен быць непрыкметным. Рэкамендуецца выконваць гэтую працэдуру не пухаўкай, а пальцам.

### Востры падбародак

Пасярэдзіне нанесці цёмную пудру, а па баках — светлую.

### Друзлыя павекі

Моцны, яркі грым вельмі кідаецца ў вочы. Таму для друзлых або набрынялых павек лепш выкарыстоўваць матавыя цені. На верхнюю частку павека над складкай наносяць цені цёмнага адцення, а на ніжнюю — больш светлыя. Контуры вачэй абводзяць тонкай лініяй пад колер ценяў. Вейкі падкрэсліваюць тушшу.

### Маленькі рот і тонкія вусны

Контуры вуснаў абводзяць светлым (нават белым) алоўкам, а затым наносяць памаду. Маладым жанчынам рэкамендуецца памада пяшчотна-ружовага або бледна-абрыкосавага колеру. Аформленыя такім чынам вусны будуць здавацца больш пухлымі і буйнымі.

### Супраць маршчын

Шмат замежных касметолагаў з поспехам выкарыстоўваюць асобны прыём масажу — пашчыпванне. Яго можна скарыстоўваць і ў хатніх умовах у выглядзе самамасажу. Дастаткова ўдзяляць гэтай працэдуры ўсяго па тры хвіліны раніцой і вечарам. Вялікім і ўказальным пальцамі пашчыпваць скуру так, каб захопліваць і тыя мышцы і тканкі, што пад ёй знаходзяцца. Пачынаюць пашчыпванне з падбародка, затым пераходзяць на шчокі, кіруючыся да вушэй. Другая лінія — ад носа праз скулы да скроняў. Робячы гэтую аперацыю, неабходна сачыць за размяшчэннем мышцаў. Пасля масажу скура становіцца свежай і пругкай.

Па матэрыялах часопіса "Бурда" падрыхтавала Майя Шэндрык.

## Кінаафіша

### "Ой, вы, гусі..."

Гэта новая каляровая мастацкая кінастужка сумеснай вытворчасці Вышэйшых курсаў сцэнарыстаў і рэжысёраў кінастудыі "Ленфільм" і камерцыйнага банка садзейнічання навукова-тэхнічнаму прагрэсу



зроблена ў стылі традыцыйнага дакументальнага рэалізму і нагадвае вясковую замалёўку. Па сутнасці, яна блізкая да шукшынскіх баек пра феномен рускага народа, які для чужаземцаў дагэтуль уяўляе сабой вядомую загадку.

Як і шукшынскія фільмы, карціна сцэнарыста і рэжысёра-пастаноўшчыка Лідзіі Бабровай і дасціпная, і сумная, і гарэзлівая, і задушэўная. Загадкавая руская душа мае ў ёй хутчэй не бытавыя, а міфалагічныя абрысы, за што, гавораць, яе аднадушна адбіраюць дырэктары ўсіх міжнародных фестываляў.

Для іх "Ой, вы, гусі..." -- энцыклапедыя рускага жыцця, вандроўка па Русі, на якой калі і каму жылося добра? А вось -- жывуць: песні спяваюць, кахаюць, хоць не спяваць хочацца, а выць, а ад кахання таго не шчасце, а адны пакуты.

Запамінальныя вобразы ствараюць у карціне Вячаслаў Собалеў, Юрый Бáброў, Васіль Фралоў, Галіна Волкава, Ніна Усатава.

### "Прага шчасця"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, знятая на базе кінастудыі "Беларусьфільм" Арт-Хэпенінг цэнтрам. Пастаноўку карціны па матывах прозы Валерыя Брусава ажыццявіў вядомы кінаакцёр Андрэй Харытонаў.

Таямнічае забойства, містыка, усёпаглынальная прага страсці, пошукі ідэалу...

У цэнтры дэтэктыўнага сюжэта – гераіня, якая ўступіла ў кантакт з замагільнымі сіламі, схіляючы іх да ўдзелу ў злачынствах. У яе свядомасці змешваюцца паняцці свабоды фізічнай, маральнай, сексуальнай... Але рэальнае жыццё складаней за любы падручнік чорнай магіі...

Да засмучэння паклоннікаў акцёрскага таленту Андрэя Харытонава яго загадкавая дэкадэнцкая фактура воляю рэжысёра пакінута па-за кадрам. Затое ў фільме цудоўна працуе іншае мужчынскае трыо: Ігар Касталеўскі, Віктар Ракаў і Уладзімір Шавялькоў. Вельмі прыгожая ў ролі пухленькай, ружавашчокай служанкі Марына Якаўлева. Але, бясспрэчна, прымадоннай карціны з'яўляецца Анастасія Вярцінская. Яе эфектнае раздваенне варта апладысментаў гледачоў і статуса "зоркі".

### "Кроў, слёзы, каханне, помста".



Карціна створана кітайскімі кінамайстрамі. Аўтары сцэнарыя – Сюэ Цыфу і Чэнь Каймін, рэжысёр-пастаноўшчык – Лі Вэньхуа.

Падзеі фільма разгортваюцца ў адной з аддаленых правінцый Кітая напярэдадні ўзнікнення рэспублікі.

... Аднойчы ў тэатры прыхільнік імперскай улады генерал Сун сустракае маладога акцёра, якога клічуць Дунхуа. Ён вельмі падобны знешне на некалі напаўшага на генерала тэрарыста. Дунхуа таленавіты, смелы і рашучы, нядрэнна валодае баявым мастацтвам кун-фу. Воляю акалічнасцей ён становіцца начальнікам аховы генерала. Паміж Дунхуа і дачкой Суна прыгажуняй Лі Юань складваюцца добрыя, пяшчотныя адносіны, і шчаслівы бацька ўжо збіраецца абвясціць аб заручынах. Але ў правінцыі дзейнічае рэвалюцыйны атрад "Нябесны дракон" – асацыяцыя людзей, якія знаходзяцца па-за законам...

У фільме з поспехам здымаліся Юй Жунгуан, Хань Шаньскі, Чэнь Сяаі, Чэнь Каймін, Баа Лайфу і іншыя.

## Вынікі конкурсу "На старт, увага, дэмарш!"

- Дэмбель непазбежны, як развал СССР.
- Беларуская армія — самая легендарная.
- Пойдзеш з аэрадрома — прыхапі тое-сёе для дома.
- Спіртным не злоўжывай, але радыяцыю выганяй.
- Нам не трэба каравай — рэферэндум падавай.
- Ты не нюхай клей "БФ", а ідзі ў БНФ.

**Васіль Чарапкоўскі.**
**(1-е месца).**

- Калі хочаш быць багаты — не сядзі, як пень, ля хаты.
- Як не хочаш быць апошнім — хатулі збірай да Польшчы.
- А як хочаш першым быць — у Амэрыку капыць!
- А калі й ня дзьмеш у вус — ты сапраўдны беларус.

**Аўсей Уранак.**
**(2-е месца).**

- На Белай Русі не ўсе карасі — ёсць і злыя яршы.

**Кастусь Карнялюк.**
**(Бронза).**

*З жыцця жывёл*











Мал. Андруся Пахмелюся.

*Гараскоп "Гарчычніка"*

# ЗНАКІ ЗАДЫЯКА АБЯЦАЮЦЬ...

Прагноз "Гарчычніка" на наступны тыдзень для ўсіх тых, хто нарадзіўся.

**Казярогу (22 снежня– 23 студзеня)** — сур'ёзныя змяненні твару да лепшага. Калегі па рабоце заўважаць гэта, ды вам не паведамяць. Але вы на іх не крыўдуйце. Праз месяц вы іх звольніце. Бо вас чакае пасада сакратаркі дырэктара. Дні эмацыянальнага ўздыму ў вашага шэфа: 8, 10, 12.

**Вадалею (24 студзеня – 19 лютага)** — вандроўка. Пад час вандроўкі ў вас адбудзецца эмацыянальны, творчы і сексуальны ўздым. Апошняе вам прынясе шмат прыгод. Будзьце падрыхтаванымі да начных купанняў галышом, дэкламацыі любоўных вершаў і карaскання па балконах з 9-га паверха на 1-шы.

**Рыбам (20 лютага – 20 сакавіка)** — добры апетыт на працягу ўсяго тыдня. Асабліва вам будуць мроіцца асятрына з лімонам, балык астраханскі, байкальскі омуль гарачага вэнджання і колькі ў таматавым соусе па 48 кап. за бляшанку.

**Авену (21 сакавіка – 20 красавіка)** — шмат мітусні, звязанай з увядзеннем беларускай валюты. Вы ўвесь час будзеце блытаць вавёрку з зубрам, а зайца з ваўкамі. "Гарчычнік" раіць вам набыць у кіёсках "Саюздруку" брашурку "Белорусский рубель. Дни доллара сочтены" і не даваць веры таму, што там напісана. Бо перад увядзеннем купонаў нас таксама супакойвалі абяцанкамі-цацанкамі. Цяпер жа купоны гэтыя — сабакі добра ліжуць.

**Цяляці (21 красавіка – 21 мая)** — часовыя хваляванні. Для вас неабходна мабілізацыя ўсіх унутраных рэзерваў. Паспрабуйце прыгадаць, колькі скрынь кансерваванай ялавічыны схавана пад падлогай, праверце наяўнасць закапаных у вашым садзе бітонаў з алеем, пералічыце ў гаражы ўсе каністры з бензінам і паспрабуйце супакоіцца. Да 1993 года павышэнне цэн вас не кране.

**Блізнятам (22 мая – 21 чэрвеня)** — поспех. Чэрвень — месяц вашага нараджэння і таму вас чакае шмат падарункаў. Але самы каштоўны падарунак для вас падрыхтаваў урад рэспублікі. У дзень нарoдзінаў вы зможаце карыстацца грамадскім транспартам бясплатна. Апраўдальнымі для кантралёра дакументамі з'явяцца: пасведчанне аб нараджэнні, пашпарт, вайсковы білет, выпіска з працоўнай кніжкі, прафсаюзны білет, даведка аб заканчэнні курсаў беларускай мовы і гэты асобнік "Чырвонай змены".

**Раку (22 чэрвеня – 23 ліпеня)** — праблемы са здароўем. У стаматалагічнай паліклініцы вам прасвідруюць замест зуба язык. Таблетка, якую вы заўсёды лічылі снатворным, на самай справе — "пурген". А аналізы мачы прадэманструюць, што яна на 100 працэнтаў складаецца з піва "Ячменны колас". Адзінае, што вам не пагражае на наступным тыдні, дык гэта своечасовы прыезд "Хуткай дапамогі".

**Ільву (24 ліпеня – 23 жніўня)** — барацьба з канкурэнтамі. Найміце целаахоўніка і трымайце ваш газавы балончык напагатове. У любы момант вы зможаце пачуць над сваім вухам здзеклівае "Ведрыч" (Рэчыца) — чэмпіён!!! Карайце нахабнікаў бязлітасна. Бо кожны ведае, што "Шахцёр" (Салігорск) — чэмпіён!!!"

**Панне (24 жніўня – 23 верасня)** — верагоднасць шлюбу з іншаземцам. У пятніцу і суботу вам пажадана наведаць інтурыстаўскую рэстарацыю. Сцеражыцеся італьянцаў з амерыканскімі цыгарэтамі і грузінскім акцэнтам.

**Шалям (24 верасня – 23 кастрычніка)** — перамены. Яны могуць адбыцца, а могуць і не. Усё залежыць ад вас.

**Скарпіёну (24 кастрычніка – 22 лістапада)** — першая палова тыдня будзе для вас шчаслівай. У метро вы знойдзеце праязны білет. Другая палова тыдня — расчараванні: агульнарэспубліканскі страйк работнікаў падземкі. Метро будзе зачынена да тае пары, пакуль у кватэрах чыгуначнікаў не з'явіцца гарачая вада.

**Стральцу (23 лістапада – 21 снежня)** — задавальненне. Героі мексіканскага тэлесерыяла "Багатыя таксама плачуць" зрэшты збяднеюць і перастануць плакаць.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА.


ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.





Зак. № 24
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12